ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 35 (2489)

29 жніўня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1000 рублёў.

## ГАНЧАРНЫ КРУГ



Рэспубліканскае свята ганчарства "Ганчарны круг-96" адбыўся на Віцебшчыне ў вёсцы Бачэйкава Бешанковіцкага раёна. Сюды, на бераг маляўнічай ракі Улы, з'ехаліся ганчары з усіх абласцей рэспублікі, тыя, хто данёс да нас гэты старажытны народны промысел і дзякуючы каму ганчарнае мастацтва атрымлівае сёння новае развіццё.

НА ЗДЫМКУ: у час адкрыцця свята "Ганчарны круг". Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).*

**ПОГЛЯД**

## ГЭТА НЕ КРЫЗІС — КАТАСТРОФА

**На календары -- канец лета, у крамах з канцтаварамі і іншымі школьнымі прыладамі -- ажыятаж, а на палетках -- "бітва за ўраджай": менавіта так сёлета на Беларусі вызначаецца перыяд збору ўраджаю. Уласна, падобны тэрмін далёка не новы: мы яшчэ не забыліся пра колішнія "змаганні" калгасаў і саўгасаў перыяду развітога сацыялізму. Да чаго прывялі тыя "перамогі", таксама доўга згадваць не трэба: літаральна пустыя паліцы і прылаўкі сустракалі сумных пакупнікоў зноў-такі не так ужо даўно, якіх-небудзь чатыры-пяць год таму. Як жа ідуць справы ў сялян сёння! Чаму мы, як і раней, чуем пра "бітву"! Чаму камбайнераў і трактарыстаў зноў клічуць на спаборніцтва, абяцаючы за лепшыя намалоты каму матацыкл (адзінкам), а каму грамату (можна і ўсім)! Чаму хуценька збіраюць па вёсках самадзейных артыстаў спяваць, танцаваць, забаўляць! Каб паказаць, што "жыць стала лепей, жыць стала весялей"! Мабыць, адказы на пастаўленыя пытанні лепш за ўсё атрымаць, наведаўшы цяперашнюю беларускую вёску, пабачыўшы ўсё на свае вочы. Але ў нашых чытачоў такой магчымасці няма. А таму мы запрасілі да размовы чалавека ў гэтай справе вопытнага і кампетэнтнага, доктара сельскагаспадарчых навук, прафесара, члена-карэспандэнта АНБ, віцэ-прэзідэтна асацыяцыі "Зямельная рэформа" Івана НІКІТЧАНКУ.**

### ШТО АДБЫВАЕЦЦА З ЭКАНОМІКАЙ

-- Цяперашні стан сельскай гаспадаркі Беларусі нават словам "крызіс" ужо нельга ахарактарызаваць: занадта слабым яно будзе. Становішча проста катастрафічнае. І гэта не проста эмацыянальная заява. Факты і лічбы цалкам пацвярджаюць сказанае. Згадаем, для прыкладу, фонды аграпрамысловага комплексу. На 1 студзеня 1991 года яны складалі ў доларавым эквіваленце прыблізна 35,7 мільярда. На 1 студзеня



1996-га -- 6,2 мільярда. У сельскай гаспадарцы практычна не засталося ніякіх рэзерваў, каб працаваць. Узнікае пытанне: куды ўсё падзелася? Тут можна назваць тры каналы: па-першае, натуральны знос і выхад са строю; па-другое, крадзяжы; і трэцяе, безгаспадарчасць.

Наступны паказчык стану нашай сельскай гаспадаркі -- так званая харчовая бяспека. Яна сёння зведзена да мінімуму.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ЛІТАРАТУРНАЯ ПАЛІТРА

*ЭСЭ*

### 1. ЯК ЗАБІЦЬ ЗВЕРА, або СУМЛЕННЕ НАЦЫІ

Літаратура, вобразна кажучы, -- гэта паляванне. Паляванне на слова, на добры вобраз, увогуле на добры твор. І напісаць гэткі твор -- амаль тое самае, што забіць звера. Але "забіць звера ў літаратуры" -- не тое самае, калі рэальная куля вылятае з рэальнай стрэльбы і рэальна валіць з ног рэальнага ваўка або дзіка. Забіць можна і ўяўна, у думках. І гэты, скажам так, несапраўдны -- разумовы -- стрэл, у адрозненне ад рэальнасці, забівае не звера, на якога настаўлена стрэльба, а -- найперш -- нас з вамі: чытачоў! Забівае не горш, чым куля, -- насмерць! Але ж мы не паміраем -- працягваем жыць, -- чаму? Ды ўсё праз тое, што "літаратурны стрэл" забівае не фізічную істоту, а -- дасягнуўшы самых патаемных куточкаў нашай душы, -- толькі тыя яе якасці, якія -- па вялікаму рахунку -- не маюць права на існаванне, накшталт злосці, хціваcці, зайздрасці, нячуласці і г. д.

Калі нейкім чынам прыняць гэту, жартам кажучы, "звярыную тэрміналогію", то будзе цікава параўнаць двух маладых аўтараў, двух празаікаў, імёны якіх на слыху, спадзяюся, не толькі на Беларусі. Адзін з іх -- Барыс Пятровіч -- выдаў у 1994 годзе другую сваю кніжку прозы "Ноч між пачвар" і рэгулярна друкуецца ў самых значных літаратурных часопісах: "Крыніца", "Полымя", "Маладосць".

Другі -- не менш таленавіты -- зрабіўся апошнім часам своеасаблівай "притчей во языцех": ледзь не кожны часопіс ці тыднёвік лічаць за гонар або надрукаваць ягоны твор (ці змясціць рэцэнзію, вартую масцітага класіка), або -- з тым самым пачуццём гонару (то, хутчэй -- ганарлівасці) -- "паскубсці" гэтага аўтара, знішчаючы яго цалкам ці даючы "парады", як трэба пісаць.

Вы, напэўна, здагадаліся, пра каго мы гаворым. Так, так, пра Андрэя Федарэнку, хай ён даруе мне гэткі пасаж. Але хай і выручае -- хай будзе калі не арбітрам, то, можа, прыкладам. Але не благім. Наадварот -- самым пераканаўчым.

Андрэй Федарэнка, у адрозненне ад Барыса Пятровіча, рэальна страляе па рэальных звярах, і рэальныя людзі -- чытачы -- рэальна рэагуюць на гэтыя рэальныя стрэлы: выказваюць удзячнасць аўтару за тое, што ён так рэальна -- ярка і даходліва! -- расказаў ім пра іхнія рэальныя беды і недахопы (і не толькі пра недахопы, але і пра тое, што варта ўхвалы -- пра іхнюю дабрыню, шчырасць, самаахвярнасць і г. д.). І гэта рэальная ўзаемасувязь, спадзяюся, не ідзе ў шкоду ні Андрэю Федарэнку, ні ягоным чытачам.

Барыс Пятровіч -- таксама паляўнічы. Але страляе ён інакш. Ды не менш трапна! Ягоныя "стрэлы" ўздзейнічаюць на чытача такім чынам, што чытач, перагарнуўшы апошнюю старонку або дачытаўшы да канца апавяданне, ужо не можа жыць так, як жыў дагэтуль. Што ж з ім адбылося?

**(Працяг на 7-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА



15--16 жніўня адбылася рабочая паездка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі па Гродзенскай вобласці. Сярод іншых месцаў ён наведаў і старажытны Навагрудак.

НА ЗДЫМКУ: Аляксандр ЛУКАШЭНКА ўскладае кветкі да помніка Адаму Міцкевічу ў Навагрудку.

БУДЗЕ ВЫНЕСЕНА НА РЭФЕРЭНДУМ

## КАНСТЫТУЦЫЯ БУДЗЕ АДПАВЯДАЦЬ ЗАХОДНІМ СТАНДАРТАМ

Цяперашняя Канстытуцыя Беларусі парушае баланс паміж рознымі галінамі ўлады -- такую думку выказалі на сустрэчы з журналістамі члены Канстытуцыйнага савета пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Па словах юрыстаў (якія, дарэчы, уваходзяць у рабочую групу па распрацоўцы праекта новай Канстытуцыі), сёння ў сістэме дзяржаўнай улады на Беларусі пануючая роля належыць заканадаўчай галіне. У якасці аргументаў былі прыведзены прыклады, калі парламент умешваўся ў кіраванне дзяржуласнасцю, а таксама вядомая прававая норма: Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны суд, што выбіраецца тым самым Вярхоўным Саветам, могуць блакіраваць любое рашэнне Прэзідэнта. Адпаведна, рэальнага раўнапраўя галін улады ў краіне няма. Праект новай Канстытуцыі, які ўжо распрацаваны і неўзабаве з'явіцца ў друку, перш-наперш скіраваны на тое, каб аднавіць парытэт. Сярод іншага прапануецца, што кіраўнік дзяржавы па пэўнаму колу пытанняў атрымае магчымасць прымаць нарматыўныя акты, аднолькавыя па сіле з законам, што састаў Канстытуцыйнага суда пароўну будзе фарміравацца парламентам і Прэзідэнтам і што, урэшце, сам парламент стане двухпалатным.

Як вядома, праект новай Канстытуцыі Прэзідэнт плануе вынесці на ўсенароднае абмеркаванне. Зрэшты, як было заўважана, размова хутчэй за ўсё ідзе не аб новай Канстытуцыі ўвогуле, а аб новай рэдакцыі асобных яе раздзелаў. Змены павінны прывесці Асноўны Закон Беларусі да заходніх стандартаў, пры гэтым іх узорам была названа Канстытуцыя Францыі.

ПАКУЛЬ УЗОР

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАШПАРТ

Выдавецтва "Беларускі Дом друку" фактычна гатова да выпуску беларускага пашпарта. Тры ўзоры новых пашпартоў -- агульграмадзянскі (цёмна-сіні), службовы (бардовы) і дыпламатычны (цёмна-зялёны) і іх тэхнічнае апісанне будуць адпраўлены на зацвярджэнне ў Кабінет Міністраў, у спецыяльную камісію.

Адначасова на ўзгадненне атрымаюць узоры і заказчыкі ў асобе міністэрстваў унутраных і замежных спраў. Атрымае і Навукова-даследчы інстытут праблем крыміналогіі, крыміналістыкі і судовых экспертыз, каб даць заключэнне па абароненасці ад магчымых падробак і на адпаведнасць усемагчымым стандартам для дакументаў падобнага тыпу. Як толькі ўсе ланцужкі ўзгадненняў і зацвярджэнняў будуць пройдзены, сталічныя друкары запусцяць сваю пашпартную вытворчасць.

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

## ЁСЦЬ ПРАЦА

Навагрудскі завод газавай апаратуры выпускае зараз больш за 30 найменняў прадукцыі, сярод якой газабалонныя ўстаноўкі для аўтамабіляў, газавыя лічыльнікі, вогнетушыцелі, наборы для прыгатавання ежы турыстам, водаацяпляльныя калонкі.

Калектыву завода ўдалося захаваць амаль усе адрасы збыту сваёй прадукцыі, якую зараз, акрамя Беларусі, пастаўляюць у Расію, Польшчу, краіны Балтыі. У выніку амаль двухтысячны калектыў прадпрыемства працуе стабільна.

ЧАМУ ПАДАЕ ПАДПІСКА

## З-ЗА НЕДАХОПУ ГРАШОВЫХ СРОДКАЎ

Сацыялагічнае апытанне 1 000 прадстаўнікоў розных слаёў насельніцтва Беларусі, праведзенае ў ліпені бягучага года, паказала прычыны, па якіх грамадзяне рэспублікі звяртаюцца да прэсы.

Так, на пытанне: "Як бы вы ахарактарызавалі прычыны, па якіх выпісваеце ці купляеце газеты?" -- найбольшая колькасць рэспандэнтаў (37 працэнтаў) адказала: "Газеты друкуюць праграмы тэлебачання". Кожнага чацвёртага чытача газеты вабяць "шырыней, паўнатой і глыбінёй матэрыялаў" (26 працэнтаў).

Пры адказе на пытанне: "У сувязі з чым вы не падпісваецеся і не купляеце газеты?" -- практычна палова (46 працэнтаў) адказала: "Няма грошай на падпіску". Ледзь не кожны дзесяты (9 працэнтаў) з апытаных "не хоча за свае грошы чытаць лухту, якой грашаць некаторыя газеты".

БЕЛАРУСЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

## "ХАТКА" Ў ГДАНЬСКУ

У Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь у Гданьску адбылася сустрэча з актывістамі беларускага культурнага таварыства "Хатка", якое з'яўляецца гданьскім аддзяленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы.

Генеральны консул Анатоль Бутэвіч расказаў гасцям пра культурнае жыццё ў Беларусі, пра дзейнасць консульства, адказаў на шматлікія пытанні.

Кіраўнік "Хаткі", выкладчыца Гданьскага універсітэта Гелена Глагоўская, іншыя ўдзельнікі сустрэчы вялі гаворку пра справы беларускага таварыства, пра ўзаемасувязі тутэйшых беларусаў з органамі мясцовай улады, з прадстаўнікамі іншых нацыянальных меншасцей рэгіёна. Асабліва заклапочана гаварылася пра недахоп аператыўнай інфармацыі з Беларусі, пра немагчымасць своечасова атрымліваць газеты, кнігі з рэспублікі.

УРАДЖАЙ-96



Мінскае адкрытае акцыянернае таварыства "Камбінат хлебапрадуктаў" вядзе прыём збожжа ў калгасаў і саўгасаў Мінскай вобласці.

НА ЗДЫМКУ: у час выгрузкі збожжа на камбінаце хлебапрадуктаў.

АРГАНІЗУЕ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## АДБУДЗЕЦЦА ДРУГІ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

У наступным годзе Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" арганізуе правядзенне Другога з'езда беларусаў свету.

Першы з'езд, як вядома, адбыўся ў Мінску 8--10 ліпеня 1993 года. З'езд прыняў шэраг дакументаў, у якіх выкладзена пазіцыя яго ўдзельнікаў па асноўных пытаннях развіцця Беларусі і падтрымкі беларускай дыяспары. Важнейшым сярод іх была "Дэкларацыя аб прынцыпах нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва Рэспублікі Беларусь". Большасць гэтых дакументаў з'яўляюцца актуальнымі і на сённяшні дзень.

Рашэнне аб праграме, месцы і часе правядзення Другога з'езда будзе прынята Радай ЗБС "Бацькаўшчына" 6 кастрычніка гэтага года ў Балгарыі. Асабліва важным з'яўляецца пытанне аб месцы правядзення з'езда, яно турбуе зараз многіх па прычыне складанай палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Беларусі. Ужо паступілі прапановы з Беласточчыны, Літвы і інш. Канчатковае рашэнне будзе прынята Радаю з улікам меркаванняў усіх беларускіх суполак, чые прапановы і заўвагі ЗБС "Бацькаўшчына" просіць дасылаць да канца верасня на адрас: 220050, вул. Рэвалюцыйная, 15, ЗБС "Бацькаўшчына", Мінск, Рэспубліка Беларусь.

НАРЫХТОЎКА ГРЫБОЎ



Цэлая сетка нарыхтоўчых і грыбаварных пунктаў працуе ў Глускім раёне. Добра, што тут утрыманне радыенуклідаў у дарах лесу практычна роўнае норме.

НА ЗДЫМКУ: нарыхтоўшчык Глускага леспрамгаса Зінаіда КІСЛЯК прымае грыбы.

ПАДАТКІ

## ПЛАТА ЗА ДАРОГУ

Згодна з нядаўнім урадавым распараджэннем, карыстальнікі аўтатранспартных сродкаў замежных дзяржаў пры перасячэнні беларускай мяжы павінны плаціць 150 долараў ЗША, аднак цяпер ва ўрадавых колах разглядаецца пытанне аб змяненні гэтай сумы.

Дарэчы, памеры аплаты пры перасячэнні мяжы ў іншых краінах устаноўлены наступныя: Літва -- 150, Казахстан -- 280, Балгарыя -- 300 долараў ЗША.

ЗАЯВА БСДГ

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ М. ТКАЧОВА І Б. САЧАНКІ

Выканком фракцыі па захаванню Грамады звяртаецца з Заявай, у якой гаворыцца: "У некаторых сродках масавай інфармацыі Беларусі распачата кампанія па дыскрэдытацыі першых тамоў Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, энцыклапедычнага аднатомніка "Беларусь", падрыхтаваных і выдадзеных пад кіраўніцтвам светлай памяці Міхася Ткачова і светлай памяці Барыса Сачанкі. Выканком Фракцыі па захаванню Грамады выказвае рашучы пратэст супраць спроб абылгаць навуковую, выдавецкую, грамадскую і палітычную дзейнасць першага Старшыні БСДГ Міхася Ткачова і яго пераемніка на пасадзе Галоўнага рэдактара Беларускай Энцыклапедыі Барыса Сачанкі. Заклікаем навукоўцаў, выдаўцоў, журналістаў, радавых чытачоў да мужнай і сумленнай ацэнкі зробленага беларускімі адраджэнцамі канца 80-х -- першай паловы 90-х гадоў XX стагоддзя. Фракцыя па захаванню Грамады выказвае ўпэўненасць, што імёны Міхася Ткачова і Барыса Сачанкі -- выдатных беларускіх энцыклапедыстаў -- назаўсёды застануцца ў памяці ўдзячных нашчадкаў".

ЮНЫЯ ТАЛЕНТЫ

## ЕДУЦЬ У АЎСТРЫЮ

У Міжнародным фестывалі дзіцячых тэатраў, што пройдзе ў Аўстрыі з 22 жніўня па 3 верасня, прымуць удзел і беларускія юныя артысты. Туды адправіцца дзіцячая балетная група "Харэаграфічныя мініяцюры" Дома піянераў Ленінскага раёна горада Бабруйска. У сваім паўтарагадзінным канцэрце яны выконваюць 24 класічныя танцы.

СНІД У СВЕТЛАГОРСКУ



Моцная ўспышка СНІДу ўскалыхнула Светлагорск. Носьбітаў ВІЧ-інфекцыі на 10 жніўня ў горадзе на Бярэзіне зарэгістравана 386 чалавек. Лічба вельмі трывожная. Светлагорск не выпадкова стаў цэнтрам увагі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Каб дапамагчы вопытам у барацьбе са СНІДам, сюды прыехалі прадстаўнікі ААН, нашы блізкія суседзі з Адэсы, дзе таксама ёсць значны вопыт папярэджання хваробы. Французская фірма "Санофі" прадставіла з гэтай мэтай дыягнастычную лабараторыю апошняй мадэлі.

НА ЗДЫМКАХ: Светлагорск даўно "славіўся" вялікай колькасцю наркаманаў, якія цяпер і складаюць пераважную большасць інфіцыраваных. Цяпер работнікамі міліцыі яны дастаўляюцца з прытонаў для ўзяцця аналізу на ВІЧ-інфекцыю.

## У БЕЛАРУСКІХ ЛЁТЧЫКАЎ





Адбыліся планавыя трэніровачныя палёты асабовага складу 61-й авіяцыйнай знішчальнай базы. Цяпер такія палёты для лётчыкаў, лічы, свята, таму што з-за адсутнасці гаручага праводзяцца не так часта. Пілоты адпрацоўвалі фігуры вышэйшага пілатажу на малых і крайне малых вышынях. На ўзбраенні тут -- самалёты СУ-27 і МІГ-29 чацвёртага пакалення. Яны здольныя выконваць у любых метэаўмовах і днём, і ноччу ўсе пастаўленыя задачы.

Палёты праходзілі пад кіраўніцтвам намесніка начальніка ВПС Рэспублікі Беларусь па знішчальнай авіяцыі палкоўніка Васіля Лазара і начальніка аддзела баявой падрыхтоўкі франтавой авіяцыі ВПС Рэспублікі Беларусь Пятра Аўдзеенкі.

НА ЗДЫМКАХ: дастаўка самалёта на лётнае поле перад палётамі; камандзір 61-й авіяцыйнай базы палкоўнік Валяр'ян САМОЙЛА і ваенны лётчык-снайпер падпалкоўнік Аляксандр МАРФІЦКІ пасля палёту на разведку надвор'я.

# ГЭТА НЕ КРЫЗІС — КАТАСТРОФА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Вытворчасць асноўнай сельгаспрадукцыі на душу насельніцтва значна ўпала. Напрыклад, мяса ў параўнанні з 1990-м годам -- у 4 разы (33--35 кілаграмаў на душу, у той час як патрэба -- 72). Малака таксама атрымаем толькі 52--55 працэнтаў ад неабходнага -- 170--190 літраў на душу насельніцтва, а ў 1990-м годзе адпаведнае спажыванне малака складала 420 літраў. Другі год запар не будзе хапаць свайго хлеба -- забяспечанасць ім упасным хлебам 70--72 працэнты.

**-- Але, здаецца, і раней Беларусь купляла збожжа!**

-- Так, мы набывалі прыкладна 3,5 мільёна тон, але ў асноўным не на харчаванне, а на корм жывёле. Хаця трохі куплялі і пшаніцы цвёрдых гатункаў, якой у нас не хапае, але яна неабходная для выпечкі якаснага хлеба. Яе куплялі і будзем купляць, але асноўная маса збожжа ўсё ж была свая.

Вось такія ў нас зараз вытворчыя паказчыкі, ну а эканоміка залежыць ад вытворчасці. На сёння 90 працэнтаў гаспадарак фактычныя банкруты. Фінансавае становішча крайне складанае і, думаю, будзе яшчэ пагаршацца, паляпшэння сёлета не мяркуецца.

**-- Тое, што сёння адбываецца ў аграпрамысловым комплексе краіны, -- лагічны працяг ранейшых працэсаў і тэндэнцый ці з'ява прынцыпова новая для Беларусі, якая на працягу дзесяцігоддзяў лічылася моцным сельскагаспадарчым рэгіёнам!**

-- Думаю, усё, што ёсць зараз, -- не выпадковасць, а заканамернасць. Сапраўды, у 90-м годзе ў складзе Саюза мы лічыліся даволі "моцнай" рэспублікай. У нас вытворчасць мяса на душу насельніцтва складала 116 кілаграмаў -- прыкладна другі вынік у свеце, малака -- 720 кілаграмаў, хлеба -- 860 кілаграмаў -- таксама каля нормы, а пра бульбу я ўжо і не кажу... Малавата было гародніны, але на гэтую акалічнасць мала звярталі ўвагі. І ўжо тады было бачна, за кошт чаго ўсё так атрымлівалася. Напрыклад, мяса Беларусь выраблялa не на ўласных рэсурсах -- завозілі тры з паловай мільёны тон збожжа, каб карміць жывёлу на комплексах, якіх набудавалі аж 250. Карацей, жылі з чужой дапамогай і адначасова рабілі шкоду сабе, бо ўсе гэтыя комплексы былі непрадуманыя і экалагічна небяспечныя. Так і з іншым. Не трэба нам было стольki бульбы. На вялікіх плошчах, каб яна расла без зелля і шкоднікаў, праводзілася інтэнсіўная хімізацыя, у глебу "загналі" каля 300 тысяч тон гербіцыдаў і пестыцыдаў, значна болей, чым амерыканцы ў час вайны скінулі на В'етнам.

Такім чынам, як толькі ўсе разышліся на сваіх кватэрах і рэсурсаў не стала, усё ў беларускай гаспадарцы "пасыпалася". Хаця, калі б адразу тады кіраўніцтва Беларусі належным чынам зарыентавалася і правяло аграрную рэформу, якая прапаноўвалася, сёння мы б, прынамсі, мелі гарантаваную харчовую бяспеку, пра якую я ўжо згадваў раней.

### ШТО АДБЫВАЕЦЦА З ЗЯМЛЁЙ

-- Зямлі ў нас хапае, толькі ворыва прыпадае на душу насельніцтва 0,67 гектара -- прыкладна ў дзесяць разоў болей, чым у Германіі. Але зямля -- не проста глеба, а сродак вытворчасці, які павінен утрымлівацца ў належным стане. А ў нас яна апынулася ў такім жа становішчы, як і ўся сельская гаспадарка. У 23 раёнах ужо ідзе "адмоўная" ўрадлівасць -- усё страчваецца. Угнаеннаў ўносіцца мала, глеба выкарыстоўваецца проста па-варварску. У зямлі няма гаспадара. Я часта езджу, зусім нядаўна быў на Віцебшчыне -- Браслаўскі, Шаркоўшчынскі, Глыбоцкі, Докшыцкі раёны. Мяняецца ўсё на вачах. У асобных месцах збіраюць столькі, колькі пасеялі. Не разумею, нашто працаваць.

**-- Атрымліваецца, на вёсцы ніхто ні за што не адказвае? У нас жа столькі "вертыкалей", кантрольных камісій...**

-- Справа ў тым, што ўсе гэтыя "вертыкальшчыкі" часцей за ўсё і з'яўляюцца найпершымі парушальнікамі, разбазараваюць зямлю налева-направа. І галоўнае -- няма закона, які б прадугледжваў адказнасць за дрэннае выкарыстанне зямлі. А ўсё таму, што мы, бадай, адзіная краіна, дзе зямля не мае цаны. Выхад тут -- зямельная рэформа. Трэба аддаць зямлю гаспадару. Таму, у якога калісьці яе адабралі (калі ён здолее даказаць сваё права), і новаму, хто на ёй жыве і працуе, -- прычым, бясплатна.

### ШТО АДБЫВАЕЦЦА З ЛЮДЗЬМІ

**-- Нярэдка можна чуць, што нашы сяляне не кідаюцца браць зямлю.**

-- Гэта няпраўда. Але, безумоўна, не ўсе хочуць. І не трэба камусьці штосьці навязваць. Хаця, мне здаецца, калі людзям усё патлумачыць, не застанецца ніводнага, хто б адмовіўся атрымаць кавалак зямлі ў прыватную ўласнасць.

Памятаю, калі фермерскі рух толькі пачынаўся і загаварылі пра рэформу -- гадоў шэсць назад, -- наш Інстытут эканамічных праблем АПК правёў даследаванне па ўсёй Беларусі. На той час 350 тысяч сем'яў выказалі жаданне атрымаць зямлю. Мы бралі ў разлік працаздольную частку насельніцтва -- да сарака гадоў. І калі б тады адпаведна пачаліся рэформы, то ўжо сёння гэтыя людзі маглі б апрацоўваць да сямідзесяці працэнтаў зямлі.

Але гэтую справу "забалбаталі" і пачалі лічыць, што нікому нічога не патрэбна. Сёння падобную ідэю актыўна падтрымліваюць вясковыя кіраўнікі -- ад брыгадзіра і вышэй. Чаму? Дык цяпер яна грамадская гаспадарка для іх як уласная кармушка. Яны распараджаюцца агульным, як асабістым. А толькі з'явіцца сапраўдны гаспадар, яны, уся гіганцкая армія чыноўнікаў ад аграпрамысловага комплексу (115 тысяч чалавек), падобна вольніцу губляюць. Хаця ведаю, што многія з іх разумеюць часовасць цяперашняга стану і самі падаюцца ў фермеры.

Што тычыцца старых, якія ўжо не ў сілах апрацоўваць зямлю, то ім і не трэба гэтага рабіць. Няхай нават і прададуць яе ў рэшце рэшт -- атрымаюць грошы, будзе на што жыць.

**-- А ці не здарыцца так, што замест таго каб апрацоўваць зямлю, ёю пачнуць гандляваць!**

-- Зямлёю нідзе ніхто не распараджаецца проста так: захацеў -- купіў, захацеў -- прадаў. У мяне ёсць знаёмы фермер у Галандыі, дык ён не мог перадаць свой надзел уласнаму сыну, пакуль фермерскі савет не прыняў у маладога чалавека экзамен на ўменне працаваць з зямлёй. У іншым выпадку нашчадак павінен прадаць зямлю таму, каго вылучыць фермерскі савет.

У нас жа ўсё фактычна вырашае старшыня, прычым зыходзячы з нейкіх сваіх там асабістых інтарэсаў і меркаванняў: ён можа даць зямлю, а можа не даць. Дарэчы, калі нешта фермеру і выдзяляюць, то звычайна няўдобіцы. Тое ж і з тэхнікай. Яна -- калгасная, і ёю таксама распараджаецца старшыня. У выніку фермерау не толькі не паболела, а нават і паменшала ў параўнанні з пачатковай кольказцю. Шэрагі радзеюць, ужо засталося толькі каля трох тысяч. Фермерскі рух пакуль без падтрымкі існаваць не ў стане. А пра якую падтрымку можна весці размову, калі на гэтыя мэты з планавага бюджэту было вылучана ўсяго каля 80 мільярдаў рублёў -- на кожную гаспадарку два з нечым мільёны. Што ж можна набыць за такую суму? Мотаблок каштуе да 14 мільёнаў рублёў. Безумоўна, фермерам трэба істотна дапамагчы стаць на ногі. А даўгі яны вернуць абавязкова, гэта ж не калгасы.

**-- Але ж, мабыць, фермерства для нашай сельскай гаспадаркі не панацэя!**

-- Канешне. Нас можа пасапраўднаму вратаваць толькі рэформа, дзе ёсць месца і дзяржаўнай гаспадарцы, і калектыўнай, і фермерскай. Я ўвесь час прыводжу прыклад Чэхіі, якая была з намі прыкладна ў аднолькавым становішчы, праўда, у іх трохі меней было сацыялізму. Дык вось, у Чэхіі да рэформы 1989 года існавала ўсяго толькі 3 200 фермераў, 1 024 кааператывы і 174 дзяржаўныя гаспадаркі. А ў 1994-м -- 52 000 фермерскіх, 1 334 кааператыўныя гаспадаркі, 1 270 прыватных кампаній, калькасць дзяржаўных гаспадарак паменшылася ў два разы.

Маё асабістае перакананне: зямля павінна знаходзіцца ў прыватнай уласнасці. У дзяржаўных руках застаецца толькі тая яе частка, якая неабходна для дзяржаўных патрэб -- дзяржрэзерв, з карысным выкапнямі, дарогі, газа- і нафтаправоды, запаведнікі, заказнікі.

Калгасы ў такім выглядзе, як сёння, не павінны існаваць, яны ў пэўным сэнсе абрабавалі Беларусь -- менавіта так можна расцаніць усе тыя трыльёны рублёў датацый, што ім пастаянна выдаецца з нашага агульнага бюджэту. Але, думаю, беларускія сяляне і ў далейшым будуць працаваць калектыўна, праўда, на іншай падставе, калі гэта будзе аб'яднанне ўласнікаў -- са сваёй зямлёй, тэхнікай, сваім інвентаром.

Увогуле сёння сельскую гаспадарку асобна ад вратавання ўсяго комплексу нельга разглядаць. Таму неабходна агульнадзяржаўная эфектыўная праграма выхаду з эканамічнага крызісу.

Гутарку вяла **Галіна УЛІЦЁНАК.**

## ПРА НАШЫ ВАЙСКОВЫЯ ФАРМІРАВАННІ

Алег Латышонак -- сур'ёзны і руплівы беларускі гісторык. Жыве ён у Беластоку, працуе ў тыднёвіку "Ніва". Сёлета ў Торуні Алег Латышонак абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму "Беларускія ваенныя фарміраванні ў 1917--1923 гадах". Тэма даволі цікавая і амаль не даследаваная ў Беларусі. Малады гісторык узяў на сябе смеласць і цярпенне, каб упершыню па крупінках сабраць і распрацаваць гэтую неабходную тэму.

Літаральна на днях у Беластоку Беларускае гістарычнае таварыства выдала на польскай мове кнігу Алега Латышонка, якая так і называецца "Bialoruskie formacje wojskowe 1917--1923". Кніга унікальная. Унікальнасць яе ў тым, што аўтар на падставе архіўных матэрыялаў грунтоўна расказвае пра тагачасныя шасцігадовыя беларускія фарміраванні. Бо сапраўды былі такія. І налічвалі яны ад дзесяці да пятнаццаці тысяч чалавек, якія свядома змагаліся за незалежнасць Беларусі. Складаліся гэтыя фарміраванні ў асноўным з добраахвотнікаў.

Сваю кнігу Алег Латышонак пачынае з аповаду пра беларускі рух ад пачатку XX стагоддзя да лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі. Далей апісанне ідзе па гадах. Аўтар вядзе гутарку пра ваенныя беларускія фарміраванні першыю першай сусветнай вайны, стасункі беларуска-літоўскія ў 1915--1918 гадах, Слуцкае паўстанне, пра беларускую дывізію беларусаў у Адэсе ў 1919 годзе. Спыняецца ён і на беларускіх вайсковых фарміраваннях у Польшчы, Латвіі, Эстоніі і г. д. Большасць старонак у кнізе адведзена вайсковай дзейнасці беларускага генерала Станіслава Булак-Балаховіча. Хачу сказаць, што гэта другое выданне ў Польшчы, дзе так падрабязна расказваецца пра генерала. У 1993 годзе ў Варшаве свет пабачыла кніга Марэка Цабаноўскага "Генерал Станіслаў Булак-Балаховіч".

У кнізе Алега Латышонка змешчана шмат арыгінальных і рэдкіх фотаздымкаў. Тут і Хасан Канапацкі, і Міколь Дзямідаў, і Кастусь Езавітаў, і Алесь Змагар, і невядомыя раней здымкі С. Булак-Балаховіча, і многія іншыя...

Перыяд 1917--1923 гадоў -- гэта "белая пляма" ў ваеннай беларускай гісторыі. Праўда, шэраг публікацый на гэтую тэму ў нашых беларускіх выданнях з'яўляўся. Але гэтага мала. Таму выхад кнігі Алега Латышонка -- значная падзея ў нашай айчыннай гістарыяграфіі.

Сяргей **ЧЫГРЫН.**



Віцебск. Мост праз Дзвіну.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## БУДАЎНІКІ ТАЯМНІЧАГА ХРАМА САЛАМОНАВА

# АГАПЫ

Знясілены цыганінай і перашкодамі, ён узвёў ганьбу на Усявышняга ў хаце 32-гадовага чэрыкаўскага памешчыка-католіка Івана Антукевіча ў прысутнасці 33-гадовага рэгістратара мсціслаўскага земскага суда Кузьмы Яснапольскага, яўрэя Нахіма Вульфавіча, дзявіцы Разаліі Казырскай і шляхціца Франца Маўчынскага.

На вечарынцы тая кампанія гутарыла аб арышце вядомага рускага асветніка і масона М. Новікава. Тут купец і заявіў, што калі б меў 30 аднадумцаў, то зрынуў бы Расію ў трапятанне. Маўчынскі не сцярпеў, сказаў, што такіх "умеют прибирать кнутом" ды данёс на Чыраева ў сакрэтную экспедыцыю Сената. Туды пацягнулі ўсіх гаваруноў. Вульфавіч удакладніў там, што Чыраеў часта называў Антукевіча масонам: "Ты и масон, и беден. Какое это масонство. Ежели б я был масоном, то вспомоществовал бы таким, как ты". У сувязі з арыштам Новікава ён адзначыў, што хутка ўсіх масонаў выдаляць з Расіі. На гэта Антукевіч адказаў, што выганяць не масонаў, а марціністаў. Давялося спецыяліяту ў адценнях вальнамулярства неяк выкручвацца. Ён сказаў, што гэта Чыраеў ухваляў ідэі роўнасці ды шкодных французаў. Арыштантаў усё ж такі выпусцілі на волю з загадам трымаць язык за зубамі.

У 1794 годзе храм Абручніка дабудавалі, але тут таемныя муляры прывялі сэрцы царадворцаў у сапраўдны жах. У Вялікім Княстве Літоўскім грымнула паўстанне на чале з 32-гадовым палкоўнікам Я. Ясінскім. Рыхтавалася яно канспіратыўна сярод незадаволеных усталяваннем на вольнашляхецкай зямлі іга рускага дэспатызму. Каб пазбегнуць выкрыцця, спісы змоўшчыкаў складалі па тыпу масонскіх саюзаў -- прозвішчы нумаравалі, перапіску шыфравалі. Сам Ясінскі склаў "Выпіс з кніг маральных вялікага бога, індыйскага філосафа сваім вернікам за правіла жыцця пададзенага", а таксама нешта накшталт маральнага кодэкса -- "Філосаф індыйскі, альбо Спосаб ашчасліўлення людскога жыцця ў грамадстве". У апошнім творы апісвалася "брацкая вера індыйцаў", якую паплечнікі мелі за абавязак зубрыць кожныя 5 дзён. Ад іх патрабавалася апушчаць вочы долу ў знак уніжанасці перад дыктатарам паўстання і бездакорна падпарадкоўвацца яму "як пану іх жыцця, маёмасці і душы".

Спіскоўцы не маглі спыняцца перад забойствам адступнікаў, бо Ясінскі лічыў, што "літасць -- гэта доля слабых". Кожны змоўшчык меўся "подговорить себе верных и искренних по крайней мере 4-х человек и убивал того, кто бы думал изменить". Усяго сярод спіскоўцаў апынулася каля 200 чалавек. Пад нумарамі ў сымбалічнай табліцы кіраўнікоў свае прозвішчы хавалі выбітныя магнаты: Франц Сапега, Ігнаці Дзялынскі, Франц Патоцкі, Станіслаў Солтан і інш. Авалодаўшы ўладай у Вільні 23 красавіка 1794 года, спіскоўцы не маглі знайсці падтрымкі ў вярыгах таямнічасці. Ды і дзеля дэманстрацыі грамадзянскай роўнасці яны паскідалі ордэны, адмовіліся ад узнагарод, платы, пераапрануліся ў мужыцкія сярмягі. Праўда, да часу перамогі. Поспеху ж паўстанне не мела. Сіта сакрэтнасці не выратавала змову ад звычайнай грызні за ўладу, ад шпіёнаманіі, ад адказнасці за паразы баявых дзействаў. Так што з часам да старых адзнак дадаліся новыя ордэны, ленты, пасады.

Чарговы рускі імператар Аляксандр I прабачыў паўстанцам па амністыі, бо апекаваў гнаных, выціраў слёзы пакрыўджаных. Вольныя муляры пры ім акрыялі, бо сам цар спавядаў ідэі ліберальнага часу. Ён запаўняў



кабінеты, дэпартаменты, канцылярыі "чэснымі" адміністратарамі, якія меліся рэфармаваць дзяржаву на пачатках правоў асобы і натуры, захапіць сваім самаадданым прыкладам пасаромленых суайчыннікаў -- гэтых замшэлых казнакрадаў і несвядомых рэтраградаў. Спадзяванні на ўсеўладнага цара, на ягоныя абяцанкі даць далучаным тэрыторыям канстытуцыю і павольна вызваліць сялян ад прыгнёту былі такімі, што віленскія муляры занеслі цара ў свае ганаровыя аналы ў адзнаку супадзення памкненняў "да адзінства і шчаслівага быту ўсіх".

Праўда, цар вызнаваў перадавыя ідэі няшчыра і гатаваў эмансіпацыйныя пераўтварэнні ў таямніцах вузкага кола дасведчаных асоб негалоснага камітэта. Яго пяро адным росчыркам магло не толькі нарабіць грамадскіх цудаў, але і вывесці штосьці адваротнае. Таму вольныя браты трымалі вуха пільным і па-ранейшаму ладзілі пасяджэнні ў чорных пакоях. Яны спавядалі таксама двайную мараль. Ложы кішэлі дыпламаванымі алхімікамі, якія шукалі тут філасофскі камень. Магнетыкі шукалі вечны эліксір жыцця, авантурнікі -- уплывовых сувязей, а таемныя даносчыкі стукалі на ўсіх у паліцыю. Сярод віленскіх братоў казалі: "Барані мяне, Божа, ад маіх сяброў, бо ад ворага я сам сябе абараню".

Нявінны занятак агапаў не мог спасцігнуць ніхто, нават самі фундатары. Калежскі рэгістратар Леў Штэйн падчас вучобы ў полацкім езуіцкім вучылішчы чытаў ананімны твор, які палічыў за мосонскі катэхізіс. Адтуль ён памятаў, што бог -- істота нябачная, а чалавек створаны па вобразу Усявышняга з бессмяротнай душой. Памятаў ён і тое, што свабода -- гэта найдаражэйшы дар чалавека, а апошні -- старэйшая з усіх істот, што людзі павінны жыць у братэрстве і кахаць адзін аднаго. Прачытанае ён называў навукай жрацоў і наборам цьмяных выразаў, якія немагчыма зразумець і якія "только обременяют жизнь и влекут в лабиринт неизвестно какой-то надежды". Наогул, лічыў ён, лепш памерці сёння, чымсьці жыць на тым свеце "в качествах наравне с протчими животными". Лепш паходзіць на птушак, якія жывуць, бясспрэчна, у свабодным паветры.

Ды толькі грамадства заставалася па-ранейшаму падзеленым на няроўныя станы, а ахвяраванні дабрадзеяў не маглі выкараніць няшчасных, убогіх. Як ні распякаліся муляры ў самаўдасканаленні, але, як казаў Аляксандр I, іхнія падданыя цярпелі становішча спартанскіх рабоў. І вось у 1817 годзе ў заходніх губернях імперыі прайшлі дваранска-шляхецкія нарады. Пракаціліся яны пад панегірыкі ў адрас Т. Касцюшкі і рускага цара, якія нечакана сталі паплечнікамі ў справе "зліцця ў адзіны народ" паноў са сваімі прыгоннымі. Шляхетныя нарады дружна пелі Лазара ліберальнаму дэспату, а з дэпутацкіх амбонаў лілася палымяная агітацыя да добраахвотнага самаадрачэння ад прымусовай працы. Віленскі губернскі дваранскі сход, дзе сядзела ці не палова масонаў, калі гаворка пайшла аб дэманстрацыі прыкладу чалавекалюбства, паглядзеў у бок, далёкі ад мулярскага братэрства, роўнасці і еднасці. У рэзалюцыі нарады галоўнай крыніцай няшчасцяў рольнікаў назвалі... яўрэяў. Таму сход запісаў у рэзалюцыі, што шляхта паспяхова вызваліць сялян толькі пасля таго, як улады выганяць яўрэяў з вёсак.

Літоўскія масоны, у тым ліку М. Агінскі, К. Плятар, А. Храптовіч, А. Тызенгаўз, хацелі давесці тыя парады да цара. А той лічыў, што вызваліць сялян з прыгоннага ярма можа толькі ўласная ініцыятыва памешчыкаў. За недазволеныя разважанні сход быў закрыты. На тайныя таварыствы нізрынуліся ганенні.

У 1822 годзе ложы наогул былі забаронены. Надзеі на цара-вызваліцеля праваліліся. За імі сканалі і спадзяванні на супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі праз мулярскія варштаты. На гарызонце Бацькаўшчыны ізноў згусціліся хмары рэвалюцый, паўстанняў, братазабойчага праліцця крыві адназемцаў паміж вызваліцелямі.

**Яўген АНІШЧАНКА,**
**кандыдат**
**гістарычных навук.**

**НА ЗДЫМКУ: пячатка ложы "Шчаслівае вызваленне". Заснавана ў Нясвіжы ў 1784 годзе.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у N 34.**

*СУСТРЭЧА СА СТАРЫМ ДОБРЫМ СЯБРАМ*

## Земавіт ФЯДЭЦКІ:

# "НА БЕЛАРУСІ МНЕ НАЙЛЕПЕЙ"

На дварэ стаяў цёплы майскі вечар. Мар'ян Баяровіч, дырэктар Лідскага музвучылішча, і аўтар гэтых радкоў пад'ехалі да мясцовага аўтавакзала, каб сустрэць жаданага госця з Варшавы. Не паспеў я выйсці з "рафіка", як убачыў каля бліжэйшай ад нас легкавушкі лідчаніна Івана Пелясу з жонкаю. Побач, таксама каля машыны, знаходзілася яшчэ адна пара сталых людзей. Гэта былі Марыя і Лявон Жамойціны. І першыя, і другія, аказваецца, сабраліся спаткаць таго ж чалавека, што і мы, -- Земавіта Фядэцкага. Прытым чакалі яны варшавяка з абеду. Лёня дазнаўся аб прыездзе апошняга ў Ліду, размаўляючы па тэлефоне з братам Янкам, актывістам Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Варшаве, публіцыстам. Толькі не ведаў, на жаль, дакладнага часу, калі, якім рэйсам прыбудзе стары добры знаёмы. Таму і давялося так доўга чакаць і хвалявацца.

Ды радасць спаткання, якое доўжылася чатыры дні, так узнагародзіла сяброў, што тое чаканне адразу ж і забылася. І тады, у час незабыўных сустрэч, я зразумеў, чаму Пелясы і Жамойціны без ніякай просьбы і падказкі цярпліва, з сяброўскім сэрцам чакалі пана Фядэцкага на аўтавакзале, чаму гэтага чалавека так прыветна і шчыра прымалі ў Лідзе і Феліксаве, Парачанах і Скрыбаўцах, Малым Мажэйкаве і Гасцілаўцах.

Але пара хоць коратка сказаць, хто такі Земавіт Фядэцкі. Не так даўно пра яго хутчэй за ўсё напісалі б: "сын белапольскага памешчыка". Так, бацька Земавіта валодаў ладным абшарам добрай зямлі на памежжы цяперашніх Лідскага і Шчучынскага раёнаў і працаваў перад другой сусветнай вайною ў Вільні, у інспекцыі працы. А нашчадак вучыўся ў віленскай гімназіі і кансерваторыі. Рос жа Зэмак, як яго і зараз называюць сябры дзяцінства ды юнацтва, у маёнтку Лебяда каля песеннай вёскі Феліксава. Там жа праводзіў вакацыі.

І раптам вайна. Пасля перадачы Саветамі Вільні і віленскага краю літоўскім уладам старшы Фядэцкі пакаштаваў казённага хлеба ў іх турме. А з прыходам фашыстаў маці і бацька Земавіта ратавалі літоўскіх яўрэяў ад смяротэльнай небяспекі, перапраўляючы іх у Беларусь. У змрочныя дні акупацыі малады Зэмак знайшоў ратунак у беларускай сям'і Івана Мальца з таго ж Феліксава, дзе з хлопцам дзяліліся нават невялікім кавалачкам хлеба, дзе паніч так моцна пасябраваў з дзецьмі селяніна-гаспадара -- Марыяй і Валодзем.

Пасля выгнання фашыстаў з нашай зямлі Фядэцкія пераехалі ў Польшчу. А неўзабаве Земавіт стаў аташэ польскага пасольства ў Маскве і некалькі гадоў прабыў у белакаменнай. Там ён пазнаёміўся і падтрымліваў добрыя адносіны з Барысам Пастарнакам, іншымі слыннымі дзеячамі рускай культуры. Там жа наш зямляк стаў займацца літаратурнай працай, пачаўшы з перакладаў. А вярнуўшыся на радзіму, звязаў сваё жыццё з часопісам "Тврурчосць", у якім працуе звыш 40 гадоў. За гэты час памог вырасці многім польскім паэтам.

Рускія, палякі, беларусы -- многія прадстаўнікі гэтых славянскіх народаў удзячныя З. Фядэцкаму за яго літаратурную працу. Гэта пан Земавіт зрабіў першы пераклад і ажыццявіў першае выданне ў сацыялістычнай Еўропе "Доктара Жывага", пераклаў з рускай на польскую мову творы С. Ясеніна, М. Цвятаевай, Б. Акуджавы, У. Высоцкага. Не раз звяртаўся З. Фядэцкі і да перакладаў беларускай паэзіі. А ў лідчан заваяваў шчырую ўдзячнасць выдадзенай у Варшаве кнігай "Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі, ezyli co spiewano w Feliksowie". Гэта зборнік беларускіх народных песень, якія запісаў Земавіт у маладым узросце і пранёс у памяці і ў сэрцы праз усё жыццё.

Наш госць прымеркаваў свой прыезд у Ліду (па парадзе тутэйшых сяброў) да чарговага з'езда лідчан. Праводзілася гэта сустрэча па ініцыятыве Таварыства польскай культуры на Лідчыне, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і мемарыяльна-культурнага аб'яднання мясцовых яўрэяў. Дык вось у рамках з'езда адбылася прэзентацыя згаданай кнігі і канцэрт-вечарына па змешчаных у зборніку песнях. То была падзея! У перапоўненай зале гарадскога Палаца культуры чуліся адна за другой радасныя песні і сумныя, і перад слухачамі ўвачавідкі паўставалі красамоўныя абразкі жыцця мясцовага люду. Вось назвы некаторых твораў, што з натхненнем і майстэрствам выканаў ансамбль народнай музыкі "Вярбіна" музычнага вучылішча: "Ой, ты грушка мая...", "Голуб на чарэшні...", "Не сячы дуба...", "Прывыкайце, сінія вочкі, адныя начаваці...", "Ляцела зязюля", "Гора маё, гараванька маё..." і іншыя.

Кожная з іх выклікала ў слухачоў шчырую ўдзячнасць як спевакам, так і Земавіту Фядэцкаму. І тым простым сялянам, ад якіх калісьці гэтыя песні былі запісаны. Пасля канцэрта папрасілі сказаць колькі слоў варшаўскага госця. "Яшчэ раз я пераканаўся, што на лідскай зямлі самыя прыгожыя песні і такія ж дзяўчаты, -- заявіў пан Фядэцкі. І дадаў: -- Калі б мне адкінуць гадоў з пяцьдзесят, я, бадай, не вяртаўся б у Варшаву".

На другі дзень не менш змястоўную вечарыну наладзілі шаноўнаму чалавеку самадзейныя артысты народнага ансамбля песні і танца "Каханачка". Калектыў гэты нарадзіўся ў Феліксаве і з годнасцю прадстаўляе мясцовую аграфірму "Мажэйкава" ў роднай краіне і за мяжою. Дарэчы, у ансамблі побач з музычнымі інструментамі надзейна служаць артыстам розныя рэчы хатняга ўжытку: каса, граблі, пілка, саган, малаток, пранік, лыжкі, бутэлькі і іншае. Словам, умее чараваць "Каханачка".

Уражанні радасныя і не зусім спадарожнічалі Земавіту ў дні яго знаходжання на лідскай зямлі. Цешыла сэрца і душу госця, што народная песня беларусаў жыве ў горадзе і вёсцы. І расказаў ён вось аб чым. Выдадзеным песенным зборнікам сялян з Феліксава зацікавіліся ў многіх краінах Еўропы. І нават у Новай Зеландыі. А ва універсітэце Венецыі вырашылі расказаць пра нашы песні студэнтам,

якія вывучаюць мастацтва. Ды пакрыўдзіў Фядэцкага адзін з італьянскіх навукоўцаў, назваўшы фальклорныя творы "песнямі з Атлантыды", маўляў, іх зараз пачуць немагчыма. "Я пераканаю італьянца якраз у адваротным", -- сказаў Земавіт.

З несхаваным задавальненнем спяваў пан Фядэцкі песні блізкіх яму людзей у розных абставінах: у "рафіку" і легкавушцы, пры сустрэчы з сябрамі юнацтва на сельскай вуліцы і ў хаце, у час застолля. Толькі хай не звязвае паважаны чытач тыя спевы з вядомымі напоямі. Паверце, за час абеду-вячэры Земавіт не асушыў нат і адной чаркі з моцным півом. Паспявае трохі ды зноў гаворыць, пытаецца. Пра Марыю Салыгу, бацька якой да вайны знаўся з Мельхіёрам Ваньковічам, пра іншых колішніх дзяўчат і хлопцаў. То раптам прыгадае і ў вочы скажа Анюце пра іх юначыя пачуцці-захапленні і з мяккім гумарам папракне за тое, што і блізка не дапускала думкі аб пацалунку. А цяпер Анюта парыруе: "Сам, Зэмак, вінаваты. Ты ж даваў чытаць мне кніжкі пра дзявочы гонар, цнатлівасць". І ўсе за сталом так міла і добра ўсміхаюцца.

У іншай кампаніі аднагодкі прыгадвалі, як паніч вучыў сялянскіх дзяцей катацца на веласіпедзе. На сваім, вядома, бо тады сустрэць у вёсцы ровар было большай рэдкасцю, чым зараз модную іншамарку. Не хаваў Земавіт свайго ўзрушэння, гаворачы пра горкія наступствы меліярацыі як на нашай зямлі, так і ў Польшчы. "Не магу паверыць, што рака майго дзяцінства Дзітва такая скалечаная і брудная", -- са скрухай прызнаваўся госць. А яшчэ выказваў шкадаванне з-за непрадуманых заяў (і таго горш -- дзеянняў) кіраўнікоў нашых дзяржаў. Праўда, не пераходзячы на персаналіі. А ўвогуле палітыкам, заўважаў суразмоўца, лепш не верыць.

Нядаўна ў маёй кватэры раздаўся міжгародні званок. Тэлефанаваў Фядэцкі. З Парыжа. Спытаў, ці атрымаў я ліст з берагоў Сены. Успомніў пра намер зноў прыехаць у нашу старонку, прывітанні ўсім сябрам перадаць папрасіў і сказаў аб сваіх мроях выканаць задуму нябожчыцы маці пра дапамогу сялянскім дзецям. У час людскіх сустрэч я чуў ад Земавіта пра цвёрдае жаданне яго мамусі прадаць маёнтак у Лебядзе і адкрыць для дзетак сялян санаторый. Планы тыя перакрэсліла вайна. І вось у новым варыянце яны з'явіліся ў сына. Па тэлефоне варшаўскі літаратар мне заявіў, што спадзяецца атрымаць ад польскіх уладаў пэўную кампенсацыю і памагчы нашай дзятве.

А назаўтра прыйшло пісьмо. У ім былі такія радкі: "Пасылаю Пану з Парыжа сваё польска-беларускае сэрца з найсардэчнейшымі прывітаннямі. Да гэтага быў у Галандыі і Англіі, ды прашу паверыць, што на Беларусі мне было найлепей...".

Вось такое прызнанне. Мяркую, шаноўны і мілы пан Фядэцкі не пакрыўдзіцца на мяне, што я прывёў гэтыя радкі з яго парыжскага ліста. І апошняе. Я ўдзячны лёсу і 1996 году, якія звялі мяне з такім цудоўным чалавекам.

**Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ,**
**старшыня**
**Лідскага аддзялення**
**таварыства**
**"Беларусь -- Польшча".**

## ДАСЛЕДАВАННІ ЗАМЕЖНЫХ БЕЛАРУСАЎ

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ -- ІДЭОЛАГ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

"Пакуль беларусы прадстаўлялі бадай выключна сялянскую масу, пакуль доступ да навукі і культуры адкрываўся толькі "вышэйшым" станам, пакуль ня вытрывала блізкая да вёскі народная інтэлігенцыя -- датуль, -- піша Антон Луцкевіч, -- вялікія думкі-ідэі, якія тварыліся лепшымі культурнымі людзьмі ўсяго свету, не маглі знайсьці для сябе дарогі да народных масаў. Гэткая вялікая была тая прорва, якая вытварылася гістарычна паміж беларускім "дэмосам" і здэнацыяналізаванымі "вярхамі".

Такі стан трываў доўга -- аж да другой палавіны XIX стагоддзя, калі ўрэшце і на зямлі беларускай апалі з рук народных путы рабства. Толькі ад часу скасавання прыгону, калі для сялянства расчыніліся дзверы школы і вольны доступ да культурных цэнтраў -- толькі тады пачынае і ў беларусаў нараджацца свая народная інтэлігенцыя, якая, маючы магчымасць зазіраць да сусветнай культурнай скарбніцы, дзеліцца сваімі здабыткамі культуры з роднай вёскай, з каторай не згубіла сувязі.

Аднак у першых пакаленнях беларускае народнае інтэлігенцыі, узросшых на волі, мы бачым яшчэ вельмі мала элементаў, якія выконваюць сваё натуральнае прадвызначэнне як праваднікі ў вёску вышэйшае культуры. Велізарная большасць за тое, што атрымлівала ад чужой -- пераважна расейскай школы, разам з роднай мовай губляла, як і "вышэйшыя" станы, лучнасць з сваім народам і пераважна абярталася ў безыдэйных эгаістаў-чыноўнікаў, якія смела служылі свайму "начальству".

Сярод агульнага кар'ерызму і самалюбства гэтых "новых інтэлігентаў" бачым першыя прабліскі ідэйнага прабуджэння, як адгалосак так званага "народніцкага" руху, агарнуўшага пад тыя часы ўсе лепшыя культурныя элементы Расіі. І беларускія "новыя інтэлігенты" пачынаюць працаваць для народа, і яны аддаюць свае сілы дзеля грамадскае справы. Але тыя перашкоды, што яны сустракалі на сваёй ідэйнай дарозе, тое праследаванне расійскім царскім урадам, які так часта і так бязлітасна разбіваў асабістае жыццё і шчасце гэткіх "злачынцаў", -- усё гэта расхаладжвала беларускіх народнікаў, тушыла ў іх самую веру ў магчымасць карыснае працы для грамадскай ідэі.

Беларуская інтэлігентная моладзь, яшчэ не паспеўшая ўзмацнець у сваім грамадскім пачуцці, але ўжо больш і больш пранікнутая ідэйнасцю, шукае тады новых дарог. Адны ідуць у кірунку самапаглыблення, задумваюцца над вялікімі агульналюдскімі пытаннямі, пытаннямі аб жыцці, яго сэнсе, істоце і мэтах і пытаннямі аб смерці. Другія знаходзяць новую дарогу, злучаючы грамадскасць з нацыянальнасцю, і становяцца ў рады байцоў не толькі за сацыяльнае і палітычнае, але і за нацыянальнае вызваленне свайго беларускага народа. Іншыя, не знайшоўшы адказу на балючыя, вечныя, глыбінныя пытанні чалавецтва, або замкнуліся ў вузкіх рамках асабістых інтарэсаў і шукалі задавальнення ў асабістым шчасці, або перайшлі да гэтай другой групы, якая пайшла ў пачатку XX стагоддзя пад нацыянальным беларускім сцягам. А ход жыцця ўсё больш і больш пацвярджаў справядлівасць нацыянальнай ідэалогіі, і ўсё больш і больш жывых сіл гуртавалася каля беларускіх адраджэнцаў.

Да апошніх належыць і найглыбейшы з ідэолагаў беларускай адраджэнскай народнай інтэлігенцыі Максім Гарэцкі. Ён сам прайшоў усе этапы, праз якія болей ці меней ідэнтычна праходзіла ўся беларуская моладзь пачатку XX стагоддзя. Як натура багата адораная, чуткая і спагадлівая да ўсяго, што робіцца навакол, Гарэцкі асабліва востра перажывае і пошукі грамадскага ідэалу, і захапленне агульналюдскімі пытаннямі, і містычныя настроі. І ўрэшце даходзіць да яснага нацыянальнага ідэалу. А як мастак слова ён у яркіх вобразах, заўсёды поўных жыццёвай праўды, па-мастацку перадае нам сваё і сваіх сучаснікаў ідэйныя блуканні і пошукі, стараючыся ў кожным прыпадку дайсці да самай істоты закранутага пытання.

"Адкуль усё і што яно?" -- вось пытанне, якое паўстае перад Гарэцкім і яго героямі, выведзенымі ўжо ў першых ягоных апавяданнях, надрукаваных у зборніку "Рунь" (Вільня, 1914). Гэтае пытанне ўжыта Гарэцкім як загаловак вязанкі настрояў "Што яно?" А настроі гэтыя -- такія характэрныя для таго "новага чалавека" ў беларускай вёсцы, якога ўжо кранула цывілізацыя.

Гарэцкі вельмі добра адчувае, што значыць адарвацца ад "роднага карэння". Гэта ж нацыянальная смерць, а мо' і смерць духоўная! У апавяданні "Роднае карэнне" ў гутарцы паміж бацькам Архіпавым і старым дзедам Якімам развіваецца шырока народны погляд на тое ж "роднае карэнне", на тую сілу, якую апошняе дае сялянскай моладзі ў жыцці ў горадзе.

Гарэцкі з поўнай свядомасцю трымаецца за роднае карэнне, але не заплюшчвае вачэй і на тое, як цяжка інтэлігенту, які выйшаў з народа, захаваць сувязь з роднай вёскай. Ён не кажа аб тых прычынах, якія вядуць да разрыву з усім родным людзей безыдэйных, самалюбных кар'ерыстаў.

Гарэцкі, дзякуючы сваёй духоўнай сіле, з усіх выпрабаванняў, якія ставяць яму жыццё і яго клопаты, выходзіць пераможцам -- і ў літаратуры, і ў сваім асабістым жыцці: ён не адрываецца ад роднага карэння, хоць брат-мужык часта і крыўдзіў яго.

Народ беларускі, як народ з вельмі прымітыўнай душой, якая захавала чысціню сваю, перажывае ўсе пачуванні вельмі глыбока і востра, аддаецца і нянавісці, і любові ўсёй сваёй істотай. Але той, хто пераходзіць у інтэлігенцыю, той у гэтым ужо непадобны да народа. Гарэцкі вельмі добра прыкмеціў гэта і даў гэтаму мастацкае выражэнне. З гэтага боку заслугоўвае асаблівую ўвагу галоўнае апавяданне зборніка "Рунь" пад тым жа назовам.

Уладзімір З. піша да самога сябе:

"Ад маткі ў песьнях, у сьлёзах, у стагнаньні; ад бацькі ў рабскай маўклівасьці, у злых словах, у кляцьбе -- дзяцёнак убіраець у душу ненавісьць і страшэнную імсьцівасьць да паноў... Ах! Штоб зрабіў ён, сын мужыцкі, усім!

Добра.

Ты, Уладзька, сын народу. Сколькі ты змалку бедаваў! Сколькі ты ўсякага ліха мысьліў, сколькі краў сэрцам ад зласьлівасьці да паноў! Ах, каб меў сілу над панамі!

(...)

Добра, і вось ты інтэлігент. А! Рука твая не паднімаецца на заклятых ворагаў тваіх!"

Тое самае, што і з нянавісцю, робіцца ў інтэлігента з вёскі і з каханнем: яно нейкае мляўкае, неглыбокае (як у герояў апавяданняў "Красавў язьмін" і "У чым яго крыўда?"), а часамі робіцца прадметам куплі-продажу: найбольш паганым відам распусты, напрыклад, у апавяданнях "Мутэрка" і "Наша думка".

Паводле Гарэцкага, вялікая любоў можа нарадзіцца толькі ў вялікай душы, толькі ў душы таго "новага чалавека", якога Гарэцкі стараецца нарысаваць у постаці таго ж Уладзіміра З., якога любоў адраджае, падымае з стану знемажэння, нецікавасці да жыцця, зняверʼя ў ідэю і свой народ. У заметках "да самога сябе" Уладзімір гаворыць аб самагубстве, хоча кінуць усялякую ідэйную працу, піша горкія словы зняверʼя ў беларускую справу. Але вось ён сустракае дзяўчыну -- дачку багатых і ганарлівых паноў Ядзю, якая горача палюбіла Уладзіміра, палюбіла і яго справу, яго ідэю. Яна, апалячаная ад некалькіх пакаленняў, узгадаваная ў пагардзе да беларускага "мужыцкага" народу, разам праз любоў адрадзілася -- і духоўна, скінуўшы з душы путы старых забабонаў, і нацыянальна, пачуўшы ў сабе кроў дзядоў-беларусаў. І Уладзімір пад гарачым дыханнем гэтае палкае любові сам адраджаецца, стаецца сапраўды "новым чалавекам" і разам з Ядзяй кідае родны край, каб недзе за морам долю каваць. "К жыццю" -- вось кліч гэтага "новага чалавека".

На жаль, Гарэцкі тут нічога не кажа аб "новым чалавеку", чалавеку з народнай інтэлігенцыі. Пісьменнік толькі падыходзіць да яго, яшчэ сам гэтага героя шукае і думае, што Уладзімір -- ягоны ідэал -- станецца такім. Але бліжэйшых рысаў яго мы не бачым: можам толькі дагадацца, што Уладзімір і Ядзя будуць каваць долю не толькі сабе, але і для свайго народа. Але яны не бачаць магчымасці рабіць гэта на радзіме -- едуць у Амерыку.

Вось тут я падышоў урэшце й да беларускай справы, да той справы, для якой жыў і працаваў сам Гарэцкі, якой шчыра аддаваў свае сілы і свае здольнасці і для якой ён палажыў сваю галаву ў страшэнным 1938 годзе.

Як ідэолаг беларускае народнае інтэлігенцыі, Гарэцкі не мог не дакрануцца да "беларускай справы". Гэтую тэму ён паспрабаваў выразіць у двух сваіх творах: у аповесці "Антон" і "Дзьве душы".

Першая аповесць -- "Антон" -- раскрывае толькі адзін бок народнай душы -- яе містычныя перажыванні, а другая -- "Дзьве душы" -- уваходзіць ужо ў іншую сферу жыцця -- нацыянальна-грамадскую.

"Дзьве душы" -- гэта "двудушнасць" галоўнага героя аповесці -- Абдзіраловіча. Узгадаваны на "пана", вясковы хлопец не можа знайсці цвёрдага грунту, на каторым мог бы стаяць. Яго прыцягвае да сябе ўсенародны выбух рэвалюцыі і буржуазнае грамадства з такімі праўдзівымі красачкамі, як Аля, ды з усімі недахопамі, добра вядомымі Абдзіраловічу. Але ні на адзін, ні на другі бок ён рашыцца не можа: Абдзіраловіч так моцна духоўна расхлябаны, што не мае сілы, ні ахвоты зрабіць нейкі выбар. Не можа яго захапіць да канца і той новы элемент народнага руху, якім з'яўляецца беларускае нацыянальнае адраджэнне.

І вось трэба падкрэсліць, што ў жыцці і творчасці Гарэцкага беларуская нацыянальная справа, справа нацыянальнага адраджэння беларускага народа -- гэта найважнейшы дагмат грамадскай рэлігіі пісьменніка. Паводле Гарэцкага, кожны беларус-інтэлігент можа стацца "новым чалавекам", калі ў аснову свайго адноўленага жыцця кладзе працу для беларускай справы. Ідэя аб "новым чалавеку" і аб беларускай справе зліваецца ў адно. І гэта, бадай, адзіная канкрэтная рыса, якой беларускі пісьменнік надзяляе свайго "новага чалавека"; побач з клічам "К жыццю!" -- гэта вычэрпвае ўсю канцэпцыю "новага чалавека".

Тут трэба адзначыць, што сувязь паміж беларускай адраджэнскай ідэяй і ідэяй "новага чалавека" ў Гарэцкага трымаецца на тым, што сам ён рос духоўна адначасна з ростам у яго душы нацыянальнай свядомасці. Ён, як сам кажа, усведаміўся самастойна, развіўшы падсвядомае пачуццё сваёй нацыянальнае прыналежнасці да поўнага ўразумення ідэі і актуальнай працы для яе.

Праходзячы ўсе этапы культурнага росту, Гарэцкі разам з тым перажыў і ўсе этапы разіцця беларускай ідэі і, можна сказаць, застаўся ідэолагам беларускае народнае інтэлігенцыі, якая ў час нацыянальнага адраджэння распаўсюджвала ідэю беларускай незалежнасці, за што ў трыццатых гадах паплацілася самым дарагім, што мае чалавек, -- сваім жыццём.

Але рост духоўнай культуры не канчаецца з уяўленнем сабе нацыянальнай ці якой іншай вялікай ідэі. Беларускія народныя інтэлігенты ў час жыцця Гарэцкага пачалі вялікую справу беларускай незалежнасці. І трэба мець надзею, што ў Беларусі прыйдуць пакаленні, якія прадоўжаць тую вялікую нацыянальную справу, за якую стаяў і змагаўся Максім Гарэцкі.

**Мечыслаў ЯЦКЕВІЧ.**

# АЛЯКСАНДРА САКОВІЧ (ІНА РЫТАР). ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ



Я, памятаю, падумала: "Гэта ж Купала зусім яшчэ малады". Выглядала вельмі міла і ягоная жонка. Уся нейкая ясная, яна мела тады доўгія льняныя косы, прыгожа ўкладзеныя на галаве, вельмі белую скуру твару і сінія вясёлыя вочы...

Калі я прыгадваю Я.Купалу з гадунцамі дзіцячага дома, мне прыходзіць на памяць і любасць да Я.Купалы маіх малых пляменніцаў. Як толькі бачылі Я.Купалу, яны беглі яму напярэймы так, як беглі да сваіх найблізкіх. Купала быў частым госцем у сям'і Грамыкаў... Ад сярэдзіны 20-х гадоў і да самае высылкі Міхася Грамыкі з Менска ў 1931 годзе мы жылі на Шпітальнай вуліцы, адразу за гарадскім садам. У вельмі блізкім суседстве ад нас былі Гарэцкія, Лёсікі, Я.Колас... Лёсікі мелі прыгожы вялікі дом. Калі ў сям'і Грамыкаў падраслі малыя і пачало рабіцца цесна, Лёсікі прапанавалі мне пакой. Я перайшла да іх, і ад таго часу маё жыццё праходзіла паміж двума дамамі -- Грамыкаў і Лёсікаў.

Цётка Ванда, жонка Язэпа Лёсіка, шмат апавядала мне пра свайго бацьку, нашага пісьменніка Ядвігіна Ш., і пра Янку Купалу. Гэта ейны бацька першы вычуў паэтычны талент нікому яшчэ тады невядомага юнака -- Янкі Луцэвіча.

Сама Ванда Лёсік была жанчына рэдкае дабрыні. Усё, што звязана з сардэчнасцю, з людскою цеплынёю, было ў яе. Сваёй вясёласцю, жвавасцю, пачуццём гумару яна, як і Купалава жонка, адразу выклікала сімпатыю. Мо таму гэтыя дзве мілыя жанчыны вельмі сябравалі...

Я чулася вельмі шчаслівай, што такія вялікія людзі, як Янка Купала, Язэп Лёсік, Вацлаў Ластоўскі, былі маімі частымі гасцямі... Я.Купала падараваў мне "Жалейку". На тытульнай балонцы ён надпісаў: "Мілай дзяўчыне, Іне Рытар, на ўваходзіны. Шчыра аддany Янка Купала. 20.1.1930 г.".

Успамінае Іна Рытар і пра Якуба Коласа: "Мае студэнцкія гады праходзілі ў Менску ў 20-х гадах, калі Я.Колас быў на вяршыні свае літаратурнае славы і, як і Я.Купала, быў сапраўдным народным паэтам Беларусі. Сярод нас, моладзі, ён карыстаўся вялікай павагай. Мы былі зачараваны ягонымі творамі, асабліва "Новай зямлёй" і "Сымонам-музыкам"...

Блізкае суседства спрыяла досыць часта спатыкаць Я.Коласа на вуліцы ці ў хаце Грамыкаў. У адрозненне ад іншых нашых знаёмых, прыкладам, Я.Купалы, Я.Лёсіка, ён рэдка ўсміхаўся. Мо дзеля таго здаваўся мне нібы суровым. А разам з тым ад маіх сяброў-студэнтаў я ведала, што кожны малады, пачынаючы паэт мог смела ісці ў дом да "дзядзькі Коласа", чытаць яму свае творы, прасіць ацэны іх і парадаў. І ён не шкадаваў для гэтага свайго часу. Здаралася, Я.Колас здагадваўся, што хтось з гэтых маладых у цяжкім матэрыяльным стане. Ён дапамагаў ім грашыма..."

Расказвае далей Іна Рытар, як любілі студэнты наведваць сходы Інбелкульта, які пазней быў пераўтвораны ў Акадэмію навук, дзе разгортваліся дыскусіі па мове, літаратуры, гісторыі, паслухаць выступленні Я.Купалы, Я.Коласа, Я.Лёсіка, П.Бузука, С.Некрашэвіча, як на канферэнцыі па рэфармаванню беларускага правапісу яны сустракаліся з А.Цвікевічам, Ф.Аляхновічам, У.Жылкам. "Мы любілі слухаць іх усіх, але найбольш Я.Лёсіка. Ягоныя прамовы, асабліва на ўрачыстасцях, прамяніліся тымі жывымі іскрамі, якія запальваюць энтузіязм. Заўсёды, калі мы слухалі яго, у сэрца прыходзіла адвага і жаданне ахвярнасці. Прыходзіла пэўнасць абавязку перад бацькаўшчынай, перад сваім народам. А самае лепшае было тое, што ён укладаў у нашыя душы веру. Веру, што для кожнага з нас ёсць нешта, што ён мусіць і можа зрабіць.

Сам ён аддаваў на працу не толькі ўвесь свой час, але і сваё сэрца, сваё здароўе, моцна падарванае доўгімі, цяжкімі гадамі выгнання на Сібіры..."

Ва ўспамінах пра Я. Лёсіка, лекцыі якога ёй давялося слухаць падчас вучобы ў Белпедтэхнікуме, а па яго "Правапісу" ў 20-х гадах вучылася ўся Беларусь, яна згадвае пра падзеі ў Беларускім універсітэце, дзе Іна Рытар на той час працавала пасля яго заканчэння (1928): "Пачалося з прыемнага. Каля дваццаці паэтаў і пісьменнікаў -- студэнтаў атрымалі персанальныя стыпендыі. Імі былі М. Зарэцкі, Я. Пушча, А. Александровіч, Т. Кляшторны, П. Трус, А. Дудар, В. Маракоў, М. Лужанін, П. Глебка, Н. Вішнеўская, К. Крапіва і інш.

— Багаты наш народ на песню, багаты на песняроў, — радасна цешыўся Я. Лёсік.

Але прыемнае ў савецкім жыцці ніколі не трывае доўга..."

Далей Іна Рытар расказвае пра "сяброўскі шарж" у насценнай газеце, абразлівы для нацыянальнага гонару беларуса, з-за якога Міхась Зарэцкі, Андрэй Александровіч і Алесь Дудар у знак пратэсту апублікавалі "Ліст трох" і пакінулі універсітэт.

Справе гэтай афіцыйныя савецкія ўлады надалі пагрозлівую палітычную афарбоўку, скліκаліся мітынгі, на якіх гучна абмяркоўвалася "антысавецкая сутнасць ліста трох", кідаліся заклікі "неабходнасці вострай барацьбы пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі з антыпралетарскімі ўчынкамі"...

Набліжаліся вынішчальныя 30-я гады, пачынаўся новы курс палітыкі камуністычнай партыі. З ім раскулачванні, калектывізацыя, абвінавачванні творчай інтэлігенцыі ў нацдэмаўшчыне, арышты, высылкі. "Афіцыйная прэса цвердзіла, што асабліва мовазнаўства сталася зброяй змагання ў руках беларускіх нацыянал-дэмакратаў. У гэтай галіне, галоўным чынам, на асобе Я. Лёсіка канцэнтравалася ейная ўвага. Прыгадалі яму ягоную ролю на І-м Усебеларускім кангрэсе, дзейнасць у БНР, рэдагаванне газеты "Вольная Беларусь", вострыя палітычныя выступы супроць маскоўскай палітыкі цэнтралізму і русіфікацыі. Уся навуковая праца, праробленая Я. Лёсікам, абвяшчалася шкоднай..."

Шмат піша Іна Рытар у сваіх успамінах пра трагічныя падзеі 30-х гадоў, сталінскія рэпрэсіі, арышты Я. Лёсіка, М. Грамыкі, А. Цвікевіча, В. Ластоўскага, раскулачванне Лявіцкіх, (Люцыю Лявіцкую -- жонку Ядвігіна Ш. і яе сыноў), высылку Купалавых маці і сясцёр, спробу самагубства самога Я. Купалы, пра апошнія сутрэчы з многімі знаёмымі пісьменнікамі, вядомымі грамадскімі дзеячамі.

"...Я ўжо працавала выкладчыцай на Рабфаку пры БДУ, калі надыйшоў пакутлівы 1930 год, чорны год у гісторыі Беларусі. Была знішчана вялікая колькасць беларускіх навукоўцаў, пісьменнікаў, паэтаў, грамадскіх дзеячоў. Сярод беларускае грамады панавала пачуццё няпэўнасці ў заўтрашнім дні. Арыштоўваўся не толькі той, хто аднойчы знаходзіўся ў апазіцыі да камунізму ці да камуністычнай улады, але кожны, хто ўважаўся ў стане выявіць супраціў. Рыхтаваўся працэс "нацдэмаў" на Беларусі... Тых, каго пакінулі на волі, прымушалі выступаць з пакаяннымі лістамі, з асудам свае папярэдняе нацыянальнае дзейнасці, з паклёпамі на блізкіх сяброў. Відаць, пад прымусам Змітрок Бядуля напісаў раман "Язэп Крушынскі"...

Усё, што адбывалася, не толькі ўражвала, але і раніла. Для мяне, асабіста, Менск апусцеў. Дамы стаялі на старых месцах, людзі хадзілі па вуліцах, ды сярод іх амаль не засталося нікога з універсітэцкай "Радні", нікога з крэўных. Міхайлу Грамыку, майго швагра, засудзілі на ссылку. Сястра з дзецьмі паехала за ім. Абвінавачванні і пагрозы не спыняліся. Такія словы, як "ворагі СССР", "працэс над нацдэмамі", "суровая кара", "расстрэл", "высылка", не зыходзілі з балонак афіцыйнага савецкага друку..."

Асабістае жыццё Іны Рытар у тыя гады таксама было складаным, нялёгкім. У 1930 годзе яна выйшла замуж і пераехала ў Маскву, дзе працаваў муж, які скончыў тэхнічны інстытут. Перажыла першае мацярынскае гора, калі памёр яе першынец -- сын Леанард. А неўзабаве нахлынула "яжоўшчына", арыштавалі мужа, абвінавацілі ў "контррэвалюцыйнай дзейнасці" і вывезлі на Калыму ў канцлагер, дзе ён і загінуў.

На руках адзінокай, безабароннай жанчыны засталася двухгадовая дачка Іна. Страх, пагроза арышту, як жонкі "ворага народа", прымусілі Іну Рытар ратавацца на Бацькаўшчыне. Яна пакінула Маскву і пераехала ў Ярэмічы -- дарагія з маленства мясціны. Але ўжо ішла другая сусветная вайна. У Ярэмічах яны некаторы час пражылі больш-менш спакойна, аднак з 1942 года, калі вёска, якая знаходзілася паблізу Налібоцкай пушчы, апынулася ў зоне партызанскага дзеяння і ў выніку баёў з немцамі была спалена, Іне Рытар з дачкою давялося пераехаць у Наваградак і ўладкавацца выкладчыцай у настаўніцкай семінарыі. Так не засталося на Беларусі бацькоўскага гнязда, лёс параскідаў па свеце некалі вялікую сям'ю. Пайшла ў выгнанне і Іна Рытар з 9-гадовай дачкою. Трапіла ў французскую зону акупацыі Германіі, у горад Бібарах, каля швейцарскай мяжы. Мясціны цудоўныя, не кранутыя вайною. Беларусаў-выгнанцаў было няшмат, і ўсе яны належалі да польскага лагера. Гэта ратавала іх ад савецкай рэпатрыяцыйнай камісіі, якая з'явілася ў Бібараху і, павесіўшы на адным з цэнтральных будынкаў горада агромністы партрэт Сталіна, пачала агітацыю сярод былых савецкіх грамадзян за вяртанне на радзіму. Неаднойчы Іна Рытар была сведкам, як сілаю прымушалі ўкраінцаў, літоўцаў, рускіх ехаць у СССР, дзе часцей за ўсё яны траплялі прамым ходам у Сібір. Заставацца ў Бібараху было небяспечна, і маладая жанчына шукала магчымасці далучыцца да землякоў каля Рэгенсбурга, дзе, па чутках, быў вялікі лагер беларусаў у амерыканскай зоне акупацыі. Ёй пашчасціла туды пераехаць, і ў хуткім часе яна становіцца выкладчыцай нямецкай і англійскай моваў у беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, якая была заснавана ў 1945 годзе. Дырэктарам яе і заснавальнікам (разам з Я. Станкевічам, Аўгенам Кахаiноўскім) стаў Аляксандр Орса -- таленавіты педагог і арганізатар, які скончыў Карлаў універсітэт у Празе. У гімназіі працавалі высокакваліфікаваныя выкладчыкі-беларусы.

Амерыканскія акупацыйныя ўлады, што забяспечвалі матэрыяльны бок існавання гімназіі, ніякім чынам не ўмешваліся ў яе выхаваўчы і навучальны працэс, не кантралявалі праграмы, па якіх найбольшая ўвага надавалася вывучэнню беларускай мовы, літаратуры, гісторыі, замежных моваў. (Дарэчы, у 1994 годзе Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку выдаў кнігу Яна Максімюка "Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945--1950)", дзе расказваецца пра дзейнасць гэтай навучальнай установы, даюцца кароткія біяграфіі яе выкладчыкаў і выхаванцаў. Кніга ілюстравана шматлікімі фотаздымкамі з асабістых архіваў дачкі Аляксандра Орсы Алы Орса-Рамана, Зоры і Вітаўта Кіпеляў, Іны Рытар-Кахаiноўскай, Паўла Урбана, Юлі Андрусышынай і інш.).

У пошуках сталага і спакойнага месца жыхарства многія беларусы пераязджаюць у Амерыку, дзе на пачатку 50-х гадоў пачынаюць засноўвацца першыя беларускія зямляцтвы. Нішто не затрымлівала і Іну Рытар у Германіі, тым больш, што тут загінула яе адзіная дачка, і ёй невыносна цяжка было хадзіць па тых сцяжынках, дзе бегала малая Іна (дзяўчынка трапіла пад колы ваеннага грузавіка).

Іна Рытар прымае беспаваротнае рашэнне: "Я дабралася да ветлых берагоў Злучаных Штатаў Амэрыкі на вайсковым транспартным караблі ў травені 1950 году. Цуда? Для мяне -- безумоўна. З маленства прагла я пабачыць далёкія, нязнаныя краіны. Ды ніколі, нават у сваіх лепшых лятуценьнях, не ўяўляла, што аднойчы здолею апынуцца за акіянам, застануся тут назаўсёды, адчую сябе роўнай сярод роўных.

Першыя пяць год я прабыла ў Нью-Йорку. Адразу давялося на маленькай фабрычцы складаць для засолу ў шкляныя банкі агуркі, тады на другой -- пакаваць для крамаў здобныя булкі ды торты. Ашчадзіла троху грошай і пайшла вучыцца. Магла б узяць патрэбны мне навучальны курс у каледжы, але спачатку моцна асьцерагалася хваліцца савецкім універсытэцкім дыплёмам.

Праца, навука ў школе забіралі шмат часу, іншым разам стамлялі. Затое ўсё іншае навокал захапляла. Уражалі размахам, багацьцем і даступнасьцю для ўсіх бібліятэкі, музэі, канцэртныя залы, опэра. Ня менш дзівілі ў цэнтры места шматпавярховыя небаскробы, раскошныя магазіны, перапоўненыя рознаякімі таварамі, на вуліцах і дарогах — непарарыўная чарада хуткіх, гулкіх аўтаў.

Тэй парою ў Нью-Йорку існавала ўжо ладная беларуская грамада. Мы ладзілі сустрэчы, канцэрты, сьвяткавалі свае нацыянальныя сьвяты. Праўда, найбольш у тыя гады спраўлялі вясельлі. Жаніліся, выходзілі замуж маладыя. Яны сьпяшаліся ў новым краі абзавесьціся роднай сям'ёю. Ішлі да шлюбу й старэйшыя, якія шмат адпакутвалі, страцілі свае сем'і. Я таксама пабралася з Аўгенам Каханоўскім. Зь ім пасяліліся ў Клыўлэндзе, дзе пражылі шчасьліва ўжо 31 год...".

Тут, у Кліўлендзе, яна пачынае пісаць свае ўспаміны, аповесці, апавяданні. Згадваючы пра гэты перыяд, пісьменніца адзначае: "Я пачала пісаць, яшчэ жывучы ў Нью-Йорку. Прафесар Янка Станкевіч (рэдактар "Веды") і доктар Вітаўт Тумаш (рэдактар "Запісаў") ахвотна друкавалі мае першыя спробы пяра. Яны па-сяброўску падбадзёрылі, падтрымалі, надалі мне патрэбнае перакананне, што я павінна працягваць пісаць.

Нярэдка чытачы пытаюцца пра некаторыя мае апавяданні і аповесці: "Гэта вы пра сябе расказалі? Гэта аўтабіяграфія?" Не. Хоць мушу зазначыць, што аўтабіяграфічны элемент да некаторай ступені знайшоў адбітак у маіх творах. Сюжэты, у якіх б'ецца пульс і кроў рэальнага жыцця, лягчэй тварыць тады, калі сам перажыў, сам зблізку наглядаў. Свае першыя публікацыі я не падпісвала маім сапраўдным імем і прозвішчам -- Іна Рытар, а псеўданімам Аляксандра Саковіч..."

Аднак яе першая публікацыя "Менск у 1930--1931 гадох" (газ. "Раніца" 13 снежня 1944) была падпісана псеўданімам Б. Еўтух, успаміны ("Беларусы ў Адэсе", "Прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі", "Прафесар Пётра Бузук", "Да гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэту"), як і мастацкія творы, падпісваліся яе вядомым літаратурным псеўданімам, артыкулы ("Лістападаўцы", "На суд гісторыі", успаміны пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка, Міхайлу Грамыку, Аляксандра Цвікевіча) падпісаны дзявочым прозвішчам Іна Рытар, артыкул "З беларускім сэрцам, думай" падпісаны: Іна Рытар-Каханоўская. У гэтай змене прозвішчаў ляжыць своеасаблівы падтэкст. Многія эмігранты, родныя якіх заставаліся ў СССР, вымушаны былі дзеля іх бяспекі мяняць свае імёны і прозвішчы, баючыся нават перапісвацца з імі.

Як празаік Аляксандра Саковіч пачалася з апавядання "У няведам'е", якое было надрукавана ў часопісе "Конадні" (1957). Затым яе апавяданні, аповесці пачалі рэгулярна публікавацца ў эміграцкім друку: газетах і часопісах "Бацькаўшчына", "Беларуская моладзь", "Беларуская думка", "Баявая ўскалось", "Беларус".

Апавяданні "На Захад", "Шчаслівая", "Сама", "Кожнаму сваё", "З кім яна", "Асірочаныя", "У завею" аб'яднаны агульнай тэмай -- жыццё на Беларусі ў 30-я гады і на пачатку другой сусветнай вайны. І хоць у іх дзейнічаюць розныя героі, аднак лёс іх аднолькава цяжкі, небяспечны. Падзеі ў гэтых апавяданнях падаюцца праз успрыманне маладых людзей, студэнтаў, часта жанчын і нават дзяцей.

**Лідзія САВІК.**

**НА ЗДЫМКУ: Аляксандра САКОВІЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у N 34.**

## З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ПРЫГАЖОСЦЬ ЯК ДЗЕЯ

Творчасць Алеся Пісарыка знаёмая мне, можна сказаць, з маленства. Жыў тады ў Зацітавай Слабадзе, чытаў пухавіцкую "раёнку" -- "Сцяг працы". А на яе старонках даволі часта выступаў з вершамі Алесь Пісарык. Пазней пазнаёміўся і з самім паэтам. З яго кнігамі. З таго часу пільна сачу за кожнай публікацыяй паэта-земляка. А ў хатнім архіве па гісторыі роднага краю асобна трымаю папку з надпісам "Алесь Пісарык". І, выцягваючы адтуль пажоўклыя газетныя выразкі, параўноўваю старыя, даўнейшыя публікацыі з сённяшнімі вершаванымі адкрыццямі літаратара. Рады і кожнай новай сустрэчы з кнігамі Алеся Пісарыка.

З шэрагу апошніх сустрэч -- знаёмства з новым зборнікам паэта-земляка, што зусім нядаўна выдадзены ў Мінску, -- "Ноч дзявочай касы". Прадмову да кнігі напісаў рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Маладосць", лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Віктар Гардзей. Сярод іншых цёплых слоў, сказаных ім пра паэта, ёсць і такія радкі: "Цяпер жа колькі слоў ці не пра самае галоўнае ў творчасці Алеся Пісарыка, прынамсі, у ягонай кнізе "Ноч дзявочай касы". Тут ледзь не на кожнай старонцы чуецца трывога за спакутаваную мілую Беларусь, неспакой за будучыню нашых дзяцей. Баліць паэту, моцна баліць. Была вайна, быў Чарнобыль. Сёння ж нашу зямлю рабуюць, хто як хоча, у беларусаў адбіраюць самае дарагое -- родную мову. Да таго ж і асабістае гора -- ранняя смерць маці, а нядаўна -- і бацькі. Дык не трэба здзіўляцца, што ў вершах паэта так многа жалю, болю, самоты. Менавіта з болю і журбы саткана ўся сапраўдная паэзія, хоць, зрэшты, не кожнаму творцу лёсам дадзена вось гэта пякучае адчуванне і асэнсаванне жыцця". Нельга не пагадзіцца з Віктарам Гардзеем. Адгарніце старонкі ўжо першага з раздзелаў кнігі -- "Грамавыя крыніцы".

**Паэзія,**
**Ты ў светлым слове "мама",**
**Ты -- гронкай спелай вішні з году ў год,**
**Ты ветразь думак высака ўздымала,**
**Калі хлуснёй аплёўваўся народ...**

Некаторыя радкі Алеся Пісарыка часам падаюцца ці не задужа ўзнёслымі, крышачку нават дэкларатыўнымі. Але ж уся гэтая патэтыка, відавочна, абумоўлена адным -- выключным жаданнем аўтара абвастрыць усенародныя бядоты-згрызоты. А яны ж не толькі ў нашым эканамічным бязладдзі, але -- і ў бездухоўнасці, у занядбанасці маральных пастулатаў, у здрадзе многім жыццядайным святыням.

**Да непрытомнасці чужыя**
**Асядуць думкі ў галаве,**
**Ускрыкнеш ноччу: "Ці жывы я?**
**Ці -- д'ябал я,**
**Ці -- чалавек?.. --**

задаецца пытаннем лірычны герой аднаго з вершаў Алеся Пісарыка. Некаму можа падацца і перабольшаным абвастрэннем усталяванне мяжы, нават сумненне на прасторавым вымярэнні, супраць пастаўленай: "д'ябал альбо чалавек". А няўжо няма часам сумненняў у чытача, сумненняў адносна таго, колькі ж у чалавеку д'ябальшчыны, а колькі чалавечнасці?

Многія вершы Алеся Пісарыка -- выразная спроба звароту, сам зварот да народа: "Дзе твае карані, народ? Калі ты ўжо пра годнасць будзеш дбаць?" Паэт уважлівы да пытання і тэмы нацыянальнай самасвядомасці, гістарычнага самавызначэння беларускага народа. І тут Алесь Пісарык, яго лірычны герой (што, відаць, у даным выпадку адно і тое ж) не ўзнімаюцца над астатнімі людзьмі. Паэт гэткі ж носьбіт, гэткае ж люстэрка часу. Таму і даверлівае стаўленне да завостранага болю, грамадзянска-лірычнай пазіцыі Алеся Пісарыка.

**Я не браў у жыцця пазык,**
**За няўвагу сябе караю:**
**Не хапіла адной слязы,**
**Каб заплакаць па родным краі,**
**Не хапіла двух крокаў мне,**
**Каб да мілых званіц прыпасці --**
**Можа б, нехта паразумнеў,**
**Каб пабачыў абсягі шчасця!**

І ўсё ж боль паэтаў як адлюстраванне болю людскога знаходзіцца на мяжы са спадзяваннем, надзеяй, што ёсць і паратунак. Ён, паратунак, магчымы толькі ў тым выпадку, калі чалавек здольны спакойна і разумна агледзецца наўкола, асэнсаваць, якая зброя з'яўляецца першасным рухавіком выратавання. А.Пісарык у якасці самай дзейснай зброі выбірае, прапаноўвае прыгажосць. Прыгажосць як адлюстраванне навакольнага жыцця. Прыгажосць як дзею.

Алесь Пісарык тонка адчувае ўсю палітру фарбаў рэчаіснасці, якая нас акружае. Шмат дапамагае -- і пацвярджэннем таму з'яўляюцца вобразныя мастацкія параўнанні -- паэту прырода. Рэкі і азёры, лясы і палеткі -- сама Паэзія. І выдатна, калі творца бачыць, адчувае гэта, калі здольны пяро сваё весці ўслед за ветрам, слова агучваць, перададзенае яму з сініх аблокаў, жаўруком вымаўленае. Аўтар кнігі "Ноч дзявочай касы", паэт Алесь Пісарык, як мне падаецца, -- чалавек і творца ўважлівы, чуйны, з тонкім слыхам і вострым зрокам.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**Алесь ПІСАРЫК**

* * *

**Зайздросцілі Ядзі сяброўкі за тое,**
**Што хлопцаў сляпіла касой залатою.**

**Купалася ў рэчцы -- ускіпвалі хвалі.**
**"Русалка, і толькі! -- дзяўчаты казалі, --**
**Напэўна на зоры начамі чаруе**
**І месяцу цноту сваю ахвяруе!.."**

**Жанатыя хлопцы, а ўслед бабылі**
**У дом на вячоркі да Ядзі брылі.**
**Глядзелі, як яркім праменнем аўса --**
**Чароўна сцякае з-пад хусткі каса.**

**Сябры засылалі сватоў да галубы.**
**Ніхто не дазнаўся, хто панне быў любы.**

**Каханы жаніўся, дзяцей гадаваў,**
**У хаце Ядвісі не раз папіваў,**
**Але не згадаўся і слыхам не ведаў,**
**Чаго так суседка шыкуе з суседам!**

**Ды неяк сказаў: "Не схаваеш касу, --**
**На рукі схаплю і ў аўсы панясу..."**

### ПРАДЧУВАННЕ ВІНЫ

**Рука не паднялася на ваўка.**
**Не выстраліў,**
**Хоць мне: "Страляй!" -- крычалі.**
**Не воўк заеў на прывязі бычка.**
**Аб'едкі на нявіннага спісалі...**

**Мне ад крыві звярынай не шалець:**
**Не прыдавацца ў сне жахлівым здзекам.**
**Як падабрэў зялёным рэхам лес!**
**Як горда стала звацца чалавекам!**

**Жыццё цаніце, людзі! Памяць -- звон!**
**Нямала ў свеце ганчакоў і лоўчых!**
**Глядзіце, як насмела выжыў воўк,**
**І як жыве занудны хамельёнчык...**

**Былі ў мой бок узведзены куркі.**
**Я адчуваў сябе загнаным зверам.**
**Ды ведаў, што чырвоныя сцяжкі --**
**Яны заўжды кружылі за вальерам.**

* * *

**Скварнячы мароз -- напамін даўніны.**
**Распралі кудзелю дымоў каміны.**

**Усход, як раздзьмутая ветрам жароўня.**
**На лютую сцюжу распалена поўня --**

**З ніццю чырвонаю верацяно.**
**Сівою варонай калышацца ноч.**

**Слупы з ліхтарамі ля крыжа, як свечкі,**
**Журбы чалавечай бяссонныя сведкі.**

**Прабеглі з гітарай хлапцы да гулёнак,**
**Змятае завея сляды ад валёнак.**

**Суседкі смяюцца, што зноў жаніхі**
**Занурылі сэрцы свае ў кажухі...**

**Скварнячы мароз -- напамін даўніны.**
**Сукаюць кудзелю дымоў каміны.**

* * *

**Зноў люты зганяе нябесную золь...**
**Ці позірк вяснянкі так любы,**
**Што хмеліць душу ледзяшовай слязой,**
**А ноччу вытоптвае гурбы!**

**Снягі не іскрацца зялёным агнём,**
**А сцелюцца коўдрай бухматай.**
**З чароўнай снягуркай бязветраным днём**
**Гарцуе дзятва перад хатай.**

**"Пад снегам -- пралескі,**
**Пад гурбай -- вясна!" --**
**Выпытвае ў сонца дачушка.**
**Ад промняў салодкіх і шчочка красна,**
**І першае дзіва -- вяснушка!**

**А сын да сякеры бліжэй, да хлява.**
**Падмога расце! Гонар! Як жа!**
**Не згледзіш, як раптам праз годзікі два**
**Заворкам за плугам наляжа.**

**У сэрца смяецца пястуха-вясна.**
**У думках даўно ўсё -- красуе.**
**І жонка ў расквечаным садзе адна**
**Жаданая ў свеце красуня...**

# ЛІТАРАТУРНАЯ ПАЛІТРА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

За той кароткі час, які трэба чалавеку, каб прабегчы вачыма дзве-тры хай сабе пяць старонак друкаванага тэксту, душа чытацкая паспявае набыць дзіўнае веданне, якога не мела раней. Яно заключаецца ў тым, што калі ён, чытач, зробіць хаця б маленечкі крок да тых пазіцый, на якіх стаяць героі твораў Барыса Пятровіча, то ён, чытач, імгненна і непазбежна ператворыцца ў таго, па кім "страляў" пісьменнік, і будзе тузацца, нервавацца і ані не разумець, што ж яму рабіць у сваім -- **непрыдуманым!** -- жыцці, як і **прыдуманы**, але "падстрэлены" аўтарам герой. І вынікам такога неасцярожнага кроку з боку чытача стануць ягоныя асабістыя пакуты -- рэальныя і нясцерпныя, -- бо нерэальных пакутаў, як мы ведаем, не існуе.

Прыгадваецца мінулагодняя публікацыя невялічкіх апавяданняў Барыса Пятровіча ў часопісе "Полымя", аб'яднаных у цыкле "Непатрэбныя рэчы", а сярод іх -- "Акуляры", -- на мой погляд, адно з лепшых у гэтым цыкле. Філігранна, па-майстэрску напісанае, яно ад пачатку і да канца напоўнена дабрынёй і чалавечым цяплом. Стаіўшы дыханне мы сочым за героем і з нецярпеннем чакаем, які ж крок ён зробіць: які яго ўзвысіць ці які закрэсліць? І герой апраўдвае надзеі чытача -- робіць адзіна магчымае ў той сітуацыі, у якой ён апынуўся: не закрэслівае тое добрае, што ў ім ёсць. А разам з ім не закрэслівае і чытач, і за гэта трэба дзякаваць найперш аўтару, які памог нам вырасці -- стаць на прыступачку вышэй, чымся мы стаялі да таго моманту, пакуль не браліся за апавяданне.

Падборка, надрукаваная не так даўно ў "ЛіМе", -- зусім іншага кшталту -- не па якасцях -- па мэтах, якія ставіліся пісьменнікам. І найбольш паказальным у гэтых адносінах мне падаецца апошняе з іх пад назвао "Адзінота", якое, пры ўсёй маёй павазе да аўтара, мне хацелася б назваць інакш -- "Жыць!" (і чытач, азнаёміўшыся з ім, зразумее маё памкненне).

Вось тут мы і падыходзім да таго, што падштурхнула мяне ўзяцца за пяро -- менавіта гэты цыкл і гэтае апавяданне. Прызнаюся, мяне заўсёды здзіўляла тое, чаму героямі сваіх твораў Барыс Пятровіч выбірае асобаў, на першы погляд ані не вартых нашай увагі: што мы, чытачы, адкрыем для сябе, пазнаёміўшыся з гэтымі людзьмі, якія амаль не вылучаюцца сярод астатніх, таксама спрэс шэрых, будзённых, часам недалёкіх людзей, а то і яшчэ горш -- зусім несімпатычных нам як знешне, так і духоўна?

А з другога боку -- што гэта дасць аўтару, які не можа не думаць пра высокія філасофскія праблемы, але, нібыта ў насмех над імі, даследуе характары, паводзіны і памкненні... цяжка нават сказаць, што людзей, -- хутчэй, істотаў, якія толькі па сваіх біялагічных адметнасцях могуць лічыцца людзьмі? Што прываблівае Барыса Пятровіча ў гэтых асобах? І хіба мы, чытачы, палюбім калі-небудзь гэтых, дамовімся, што людзей?!

І вось у гэтым апошнім -- і сакраментальным! -- пытанні ("ці палюбім?!") і схаваны феномен Барыса Пятровіча, яго незвычайнасць і непаўторнасць.

Ён не пераказвае нам тое ці іншае здарэнне або выпадак, ён бярэ нас з вамі за руку і вядзе туды, дзе адбываецца дзея, — да гэтых брыдкіх, непрыгожых людзей, — і мы нават не разумеем спачатку, чаму ўсё-ткі застаёмся з імі — не бяжым прэч — далей ад бруду і жаху! — каб не надта запэцкацца — каб застацца чыстымі і высакароднымі -- бо менавіта гэткімі мы лічым саміх сябе...

Але праз колькі радкоў мы са здзіўленнем пачынаем заўважаць, што чытаем не пра іх -- не пра гэтых брыдкіх і брудных, -- чытаем пра сябе, але -- што істотна! -- не пра гэткіх, якіх прызвычаіліся бачыць у сваім уяўленні, а трошкі іншых: трохі пакрыўджаных, трохі непрыгожых, трохі пабітых жыццём, карацей, гэткіх, якія не здолелі штосьці пераадолець у саміх сабе і праз тое надламаных і таксама выкінутых на ўзбочыну жыцця...

І хаця свядомасць наша адмаўляе такое дзіўнае падабенства і пераўтварэнне, аднак у глыбіні душы мы верым у такую магчымасць і добра ведаем, што якраз гэткія мы і ёсць -- недасканалыя, няўпэўненыя, нерашучыя ці неразумныя... А прызнацца -- нават самому сабе! -- дзіва што не хочацца, бо, прызнаўшы гэта, трэба будзе прызнаць і тое, што паважаць сябе, па сутнасці, няма за што, і таму мы хуценька пачынаем узвышаць сябе -- нахвальваць або супакойваць, што мы трошкі лепшыя, чымся памянёныя вышэй героі, што мы здолелі і здолеем перамагчы тое, што не ўдалося перамагчы героям Барыса Пятровіча. Але голас, ціхі, ледзь чутны -- і праз тое бездакорны! -- голас нашага сумлення -- нашэптвае нам, што гэта трошачкі не так: не ўсё мы перамаглі і не ўсё здолеем перамагчы -- і праз тое -- застанемся... ну, не зусім гэткімі, але ж надта падобнымі на герояў, пра якіх толькі што прачыталі.

Вось гэты нечаканы паварот у нашай свядомасці і ёсць той самы "стрэл" пра які марыў пісьменнік, падымаючы сваю "стрэльбу" -- пісьменніцкае пяро, -- той самы "стрэл", па якім мы так ссумаваліся, бо надта ж даўно не адчувалі на сабе магічнага і жыватворнага ўздзеяння слова. Не будзем чапаць таго, як Барыс Пятровіч дасягнуў гэтага -- гэта ягоная таямніца і ягоны набытак, -- але адначасова гэта і наш набытак, і наша таямніца, бо, трапіўшы пад уздзеянне яго сухаватай, нібыта непаэтычнай, на першы погляд, занадта канкрэтнай, ледзь не канцылярскай прозы, мы, незаўважна для сябе, ператвараемся ў іншых людзей -- больш чулых, больш сарамлівых, больш спагадлівых -- як да сябе, так і да астатніх. Хіба гэта не тое, пра што марыць любы пісьменнік?!

А цяпер вернемся да таго, з чаго пачыналі гаворку: чаму Барыс Пятровіч "выбірае" сваіх герояў сярод тых, каго "героямі" лічыць ніяк нельга?

Ды проста таму, што іншай магчымасці ўздзейнічаць на нас **не існуе!** Мы настолькі закамянелі, настаўлялі вакол сябе столькі шчытоў, жадаючы адгарадзіцца ад жахаў і жудасці цяперашняга свету, што, напэўна, трохі перабольшылі з гэтымі шчытамі -- адгарадзіліся настолькі, што перасталі бачыць у суседзе -- сябра, у прахожым -- добрага знаёмага, у незнаёмым -- чалавека, які можа табе памагчы.

І Барыс Пятровіч -- паціху, непрыкметна -- вяртае нас да былой чалавечнасці і нагадвае нам, што ўсе мы -- людзі. І што ўсе мы, добрыя і дрэнныя, вартыя лепшай долі, чымся тая, якую маем. І дазволіць сабе так пісаць можа толькі чалавек, які добра ведае цану сціпласці, здрады, веры і няверʼя, чалавек, які ўсё вельмі добра бачыць, усё прыкмячае, але не робіць з гэтага гвалту: "Ратуйце нас: мы -- гінем!" і не закрэслівае з грэблівасцю тых, хто апынуўся значна ніжэй агульнапрынятага ўзроўню паводзін як у грамадскім, так і ў прыватным жыцці; **ён проста вяртае нас да сябе!**

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**

**(Працяг будзе).**





# ГАНЧАРНЫ КРУГ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Не выпадкова арганізатары свята выбралі Бачэйкава. Вёска, гісторыя якой пачалася яшчэ ў XY стагоддзі, славілася традыцыямі розных рамёстваў. Тут развівалася ткацтва і шкляная справа, працавалі збройнія і мэблевыя майстэрні. Быў тут і керамічны завод, дзе рабілі цэглу і чарапіцу.

Сустрэча майстроў ганчарнай справы ў Бачэйкаве стала і святам, і цудоўнай школай абмену вопытам паміж майстрамі розных пакаленняў. Майстры старой школы і сярод іх вядомыя ганчары -- Антон Пракаповіч з Івянца і Уладзімір Татарыс з Гарадка дэманстравалі мастацтва вырабу традыцыйнай керамікі -- хатніх рэчаў. А Міхаіл Васкоўскі з Мазыра яшчэ раз здзівіў усіх сваёй тэракотавай дробнай пластыкай. Парадавалі і маладыя майстры. Аляксандр Кірычак з Салігорска вярнуў амаль з небыцця мастацтва абварной керамікі.



Сяргей Шчэрба з Пастаўскага раёна прадэманстраваў не толькі розныя музычныя інструменты і свістулькі з гліны, але і парадаваў цудоўнай ігрой на іх.

Свята ў Бачэйкаве паказала, што ганчарства на Беларусі знаходзіцца на ўздыме і мае працяг у маладым пакаленні майстроў.

Арганізавалі "Ганчарны круг-96" Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, аддзел культуры Віцебскага аблвыканкома з фінансавай падтрымкай Беларускага фонду Сораса.

Яўген КАЗЮЛЯ.

Здымкі зроблены на свяце "Ганчарны круг".

Фота аўтара.





*УСЁ АБ НУМІЗМАТЫЦЫ*

# АДКРЫЦЬ СКАРБ

Шмат кніг існуе па нумізматыцы Беларусі. Адна з іх -- "Нумізматыка Беларусі" В. Рабцэвіча. У ёй расказваецца аб паходжанні грошай, аб манетах і скарбах, аб гісторыі грашовага абарачэння на тэрыторыі Беларусі.

Кнігу можна ўмоўна падзяліць на дзве часткі: у першай расказваецца пра гісторыю грашовага абарачэння, другая (даведачна-дапаможны матэрыял) складаецца з манетных табліц (іх усяго 244) і табліц, прысвечаных геральдычным выявам, вензелям, манаграмам і іншым абрэвіятурам на манетах (гэтых табліц усяго 22).

Пачынаецца кніга з уводзін, дзе расказваецца пра паходжанне тэрміна "нумізматыка", пра гісторыю станаўлення і развіцця нумізматыкі як дапаможнай гістарычнай дысцыпліны, узрост якой менш за 70 год, пра ролю нумізматыкі ў вырашэнні гістарычных, эканамічных, культурных і палітычных праблем.

Першая частка кнігі падзяляецца на 10 глаў. Першая называецца "Тавар і грошы". У ёй падаюцца выказванні розных дзеячаў навукі наконт грошай. Яны разглядаюцца як спецыфічны від тавару. У канцы аўтар апісвае функцыі грошай. Другая глава "Манета і скарб" прысвечана характарыстыцы манеты (у тым ліку і пробе манеты), а таксама скарбу як спосабу захавання каштоўнасцей. У вуснай народнай творчасці скарбы падзяляюцца на замоўныя і добрыя. У фальклоры беларусаў ахоўнікамі скарбаў выступаюць палявік, лесавік, багнік (балотнік), кладнік (кладавік). Адкрыць скарб можна быццам з дапамогай цудоўнай сілы некаторых раслін. У канцы главы размяшчаецца дзяржаўнае заканадаўства аб скарбах.

Асобная глава расказвае пра антычныя манеты на тэрыторыі Беларусі (манеты Рымскай імперыі, куфіцкі дырхем) і падае перыядызацыю абарачэння арабскага срэбра. У гэты час у заходніх землях Беларусі працягвае хадзіць куфіцкі дырхем і з'яўляюцца візантыйскія манеты.

Пятая глава апавядае пра безманетны перыяд, які на тэрыторыі Беларусі працягваўся да пачатку XIV стагоддзя. Прыток заходнееўрапейскага дынарыя спыніўся, адзіная Старажытнаруская дзяржава распалася. Але гандаль не знік. Важнейшым матэрыяльным сведкам развіцця гандлю на тэрыторыі Беларусі з'яўляюцца знаходкі вагаў і рознаважаў. Бязмены, вагі і гіркі выяўлены ў Лагойску, Друцку, Мінску, Навагрудку і іншых мясцінах. У гэты час распаўсюджваюцца своеасаблівыя грошы — сярэбраныя зліткі пэўнай масы і формы. У Беларусі часцей за ўсё сустракаліся два віды зліткаў: кіеўскія (140--165 грамаў) і заходнерускія, ці літоўскія (100--110 грамаў), радзей сустракаліся навагародскія (190--210 грамаў). У пісьмовых крыніцах зліткавае срэбра фігуруе пад рознымі назвамі. Часцей за ўсё -- гэта "грыўна". Асноўнай грашовай адзінкай Вялікага Княства Літоўскага стаў пражскі грош. Найбольш інтэнсіўнае абарачэнне пражскіх грошай было ў Падняпроўі. У другой палове XV стагоддзя ў рынак Беларусі ўключылася польская грыўна -- 48 пражскіх грошай. З апошняй чвэрці XV стагоддзя пісьмовыя крыніцы ўпамінаюць залаты венгерскі дукат.

Цэнтрам грашовай вытворчасці ВКЛ з'яўляецца Вільня, Польшчы -- Кракаў. На Беларусі маюць хаджэнне дукаты, талеры і манеты Лівонскага ордэна -- лівонскія шылінгі. Што датычыцца апошніх, то вядома, што адбывалася падробка гэтых манет у Полацку. Пасля гэтага кара за падробку манеты стала больш жорсткай.

У восьмай главе асобнае месца займаюць грашовыя рэформы 1752, 1787 і 1795 гадоў. З другой чвэрці XVIII стагоддзя руская манета пачынае актыўна выцясняць з рынку як польскія, так і заходнееўрапейскія эмісіі.

У дзявятай главе ідзе размова пра грашовае абарачэнне на Беларусі з канца XVIII стагоддзя да 1917 года. У гэты час расійская манета, якая стала для Беларусі асноўным афіцыйна ўзаконеным сродкам грашовага абарачэння, прыцягвае ўвагу фальшываманетчыкаў.

Дзесятая глава прысвечана грашовай сістэме савецкай эпохі, калі былі медныя і папяровыя грошы. Пасля распаду СССР у 1991 годзе адзіная грашовая сістэма распалася. Кожная рэспубліка пачала ўводзіць свае грошы.

Падаецца ў кнізе і рэкамендацыя па дагляду за старажытнымі манетамі, што вельмі каштоўна для спецыялістаў па нумізматыцы і для ўсіх, хто цікавіцца манетамі і калекцыяніруе іх.

Павел ЕПІХАЎ.

Намеснік рэдактара Дзіяна ЧАРКАСАВА

ЗАСНАВАЛЬНІК: Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС: 220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 895. Падпісана да друку 26.8. 1996 г.